ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (155)
люты 2024 год
CATHOLICNEWS.BY

# Пасланне Святога Айца Францішка на Вялікі пост 2024

## *Бог вядзе нас праз пустыню да свабоды*



**Дарагія браты і сёстры!**

Калі аб’яўляецца наш Бог, Ён абвяшчае свабоду: “Я – Пан, Бог твой, які вывеў цябе з зямлі егіпецкай, з дому няволі” (Зых 20, 2). Так пачынаецца Дэкалог, дадзены Майсею на гары Сінай. Народ добра ведае, пра што кажа Бог: яны адчуваюць яшчэ на сабе досвед нявольніцтва. У пустыні народ атрымлівае “Дзесяць словаў” як шлях да свабоды. Мы называем іх “запаведзямі”, падкрэсліваючы сілу любові, з якой Бог выхоўвае свой народ. Гэта сапраўды моцны заклік да свабоды. Ён не вычэрпваецца адной падзеяй, таму што набірае моц на працягу ўсяго падарожжа. Як Ізраэль у пустыні ўсё яшчэ мае ў сабе Егіпет, – часта са шкадаваннем успамінае былое, наракае на нябёсы і Майсея, – так і сёння Божы народ носіць у сабе путы прыгнёту, якія павінен скінуць. Мы ўсведамляем гэта, калі нам не хапае надзеі ў вандроўцы праз жыццё, як праз пустыню, без абяцанай зямлі, у якую мы маглі імкнуцца б разам. Вялікі пост – гэта час ласкі, калі пустыня зноў робіцца, – як кажа прарок Осія, – месцам першай любові (пар. Ос 2, 16-17). Бог выхоўвае свой народ, каб ён выйшаў з няволі і спазнаў пераход ад смерці да жыцця. Як жаніх, Ён прыцягвае нас да сябе і шэпча нашаму сэрцу словы любові.

Шлях з няволі да свабоды – не абстрактная вандроўка. Дзеля таго, каб і наш Вялікі пост быў рэальным, найперш трэба запрагнуць убачыць рэчаіснасць. Калі ў палаючым кусце Пан прыцягнуў Майсея і прамовіў да яго, адразу аб’явіўся яму як Бог, які бачыць, а перадусім чуе: “Я добра бачыў пакуты народу Майго ў Егіпце, Я чуў крык ягоны з-за прыгнятальнікаў яго. Я ведаю яго цярпенні. Таму сышоў Я, каб вызваліць яго з рук егіпцянаў і вывесці яго з гэтай зямлі ў зямлю добрую і пасторную, дзе сочыцца малако і мёд” (Зых, 7-8). І сёння крык многіх прыгнечаных братоў і сясцёр даходзіць да неба. Спытаем сябе: а ці даходзіць да нас? Ці ўражвае нас? Ці кранае? Занадта шмат фактараў аддаляе нас адзін ад аднаго, адмаўляючы братэрства, якое натуральным чынам нас яднае.

Падчас майго падарожжа на Лампедузу я задаў два пытанні ў якасці супрацьпастаўлення глабалізацыі абыякавасці. Гэтыя пытанні робяцца ўсё больш актуальнымі: “Дзе ты?” (Быц 3, 9) і “Дзе брат твой?” (Быц 4, 9). Велікапосная вандроўка будзе рэальнай, калі, услухоўваючыся зноў у гэтыя пытанні, мы прызнаем, што ўсё яшчэ застаёмся пад панаваннем фараона. Гэта панаванне, якое робіць нас знясіленымі і нячулымі. Гэта мадэль развіцця, якая нас дзеліць і крадзе будучыню. Не толькі зямля, паветра і вада забруджаныя ёю, але таксама і душы. Насамрэч, хоць разам з хростам распачалося нашае вызваленне, у нас застаецца невытлумачальная туга па няволі. Нейкая цяга да бяспечных знаёмых рэчаў, са шкодаю для нашай свабоды.

Я хацеў бы звярнуць вашую ўвагу на адну важную дэталь у гісторыі Зыходу: менавіта Бог бачыць, узрушваецца і вызваляе, а не сам Ізраэль просіць пра гэта. Фараон душыць нават мары, крадзе неба, робіць усё, каб нам здавалася, што свет, у якім годнасць старана і адрынутыя сапраўдныя сувязі, немагчыма змяніць. Яму ўдаецца прывязаць да сябе. Запытаем саміх сябе: ці прагну я новага свету? Ці гатовы адкінуць кампрамісы са старым? Сведчанне многіх сабратоў біскупаў і вялікай колькасці асобаў, якія працуюць на карысць спакою і справядлівасці, усё больш пераконвае мяне, што вартым асуджэння з’яўляецца дэфіцыт надзеі. Бо тут мы сутыкаемся з перашкодай для мараў і нямым крыкам, які дасягае нябёсаў і ўзрушвае сэрца Бога. Гэты дэфіцыт надзеі нагадвае настальгію па няволі, якая паралізавала Ізраэль у пустыні, не даючы яму ісці наперад. Зыход можна перапыніць: як інакш патлумачыць той факт, што чалавецтва, дасягнуўшы парога агульнага братэрства і ўзроўню навуковага, тэхнічнага, культурнага і прававога развіцця, здольнага гарантаваць годнасць усім, блукае навобмацак у цемры нярoўнасці і канфліктаў.

Бог не стаміўся ад нас. Прывітаем жа Вялікі пост як духоўна моцны час, калі Ягонае слова зноў прыгадвае нам: “Я – Пан, Бог твой, які вывеў цябе з зямлі егіпецкай, з дому няволі” (Зых 20, 2). Гэта час навяртання, час свабоды. Кожны год у першую нядзелю Вялікага посту мы ўспамінаем, што самога Езуса Дух вывеў у пустыню, каб там Ён быў выпрабаваны ў свабодзе. Сорак дзён Ён будзе перад намі і разам з намі: Ён – Уцелаўлёны Сын. У адрозненні ад фараона Бог хоча не падданых, а сыноў. Пустыня – гэта тая прастора, дзе нашая свабода можа пасталець праз прыняцце асабістых рашэнняў, каб не трапіць зноў у няволю. У перыяд Вялікага посту мы знаходзім новыя крытэрыі мыслення і супольнасць, з якой можам вырушыць у дарогу, якой ніколі раней не ішлі. Гэта, аднак, азначае змаганне. Кніга Зыходу і спакушэнне Езуса на пустыні выразна кажуць пра гэта. Голасу Бога, які кажа: “Ты Сын Мой умілаваны” (Мк 1, 11), і “Не май іншых багоў, апроч Мяне!” (Зых 20, 3), вораг супрацьпастаўляе сваю хлусню. Больш, чым фараона, варта баяцца ідалаў, якіх мы сабе паставілі, каб не палічыць, што гэта Божы голас гучыць у нас. Усё магчы, мець паўсюль пашану, мець перавагу над усімі. Кожны чалавек адчувае, наколькі спакуслівым бывае гэты падман. Стары вядомы шлях. Мы можам прывязацца да грошай, да пэўных праектаў, ідэй, мэтаў, сваёй пазіцыі, да традыцыі і нават да нейкіх асобаў. Замест таго, каб нам дапамагаць ісці наперад, яны паралізуюць нас. Замест сустрэчы, ствараюць канфлікт. Аднак, усё ж існуе новае чалавецтва, народ малых і пакорных, якія не паддаліся прывабнасці хлусні. У той час, як ідалы чыняць тых, хто ім служыць, нямымі, сляпымі, глухімі і нерухомымі (пар. Пс 115 [114], 4), убогія ў духу трываюць у адкрытасці і гатоўнасці: яны – маўклівая сіла дабра, якая ацаляе і падтрымлівае свет.

Прыйшоў час дзейнічаць, а ў Вялікім посце дзейнічаць таксама азначае прыпыніцца. Прыпыніцца ў малітве, каб атрымаць Божае слова, і прыпыніцца, як самаранін, у прысутнасці зраненага брата. Любоў да Бога і да бліжняга – гэта тая самая любоў. Не мець іншых багоў азначае затрымацца ў прысутнасці Бога пры целе бліжняга. Таму малітва, пост і міласціна не з’яўляюцца трыма незалежнымі чынамі, але адным рухам адкрытасці, самаадрачэння: прэч ад ідалаў, якія нас абцяжарваюць, прэч ад прыхільнасцяў, якія нас звязваюць па руках і нагах. Тады паміраючае і замкнёнае ў ізаляцыі сэрца прачнецца. Таму затрымайцеся і станьце вольнымі. Кантэмплятыўнае вымярэнне жыцця, якое Вялікі пост дазволіць нам нанова адкрыць, мабілізуе новыя сілы. У прысутнасці Бога мы становімся братамі і сёстрамі, адчуваем іншых з новай інтэнсіўнасцю: замест пагроз і ворагаў знаходзім спадарожніц і спадарожнікаў вандравання. Менавіта такая Божая мара, зямля абяцаная, у якую мы ідзём, калі пакідаем няволю.

Сінадальная форма Касцёла, якую апошнім часам нанова адкрываем і культывуем, прапануе, каб Вялікі пост быў таксама перыядам прынятых супольна рашэнняў, малых і значных выбараў, супраць агульнапануючай плыні, і гэта зможа змяніць штодзённае жыццё асобных людзей і наваколля: пакупніцкія практыкі, клопат аб стварэнні, прыняцце ў супольнасць тых, каго не заўважаюць або кім пагарджаюць. Я заахвочваю кожную хрысціянскую супольнасць прапанаваць сваім вернікам такі час, калі яны маглі б перагледзець стыль жыцця і спакойна паразважаць над сваёй прысутнасцю ў канкрэтным месцы і над уласным унёскам у ягонае паляпшэнне. Гора нам, калі хрысціянская пакута нагадвае тую, якая засмуціла Езуса. Ён звяртаецца і да нас: “Калі посціце, не будзьце панурымі, як крывадушнікі. Бо яны закрываюць свае твары, каб людзі бачылі, што яны посцяць” (Мц 6, 16). Лепш зробім бачнай радасць на нашых тварах, адчуем водар свабоды, вызвалім тую любоў, якая чыніць усё новым, распачынаючы з самых малых і блізкіх рэчаў. Гэта можа адбыцца ў любой хрысціянскай супольнасці.

Наколькі гэты Вялікі пост будзе часам навяртання, настолькі заблукалае чалавецтва адчуе творчы імпульс: пробліск новай надзеі. Дазвольце мне паўтарыць тое, што я сказаў моладзі на сустрэчы ў Лісабоне мінулым летам: “Шукайце і рызыкуйце, шукайце і рызыкуйце. На гэтым гістарычным этапе мы сутыкаемся з вялізнымі выклікамі, чуем балючыя стогны стольких людзей. Мы перажываем Трэцюю сусветную фрагментарную вайну. Але давайце рызыкнём думаць, што мы не ў агоніі, а ў родах, не ў канцы, а ў пачатку грандыёзнага спектакля. Патрэбна адвага, каб так думаць” (Discorso agli universitari, 3 жніўня 2023). Вось адвага навяртання – выйсця з няволі. Вера і любоў трымаюць за руку гэтае дзіцянадзею, вучаць яго хадзіць, а яно ў той жа час цягне іх наперад [1].

Благаслаўляю вас усіх і вашае велікапоснае падарожжа.

*Рым, у св. Яна на Латэране, 3 снежня 2023 года, у Першую нядзелю Адвэнту.*

**ФРАНЦІШАК**

[1] Пар. Ch. Péguy, Il portico del mistero della seconda virtù, Milano 1978, 17-

*Пераклад здзейснены Секцыяй па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры ККББ.*



# Святы Айцец патэлефанаваў манахіні на Гаіці

**3 лютага Папа патэлефанаваў сястры Паэзі, якая дапамагае 2500 гаіцянскім дзецям у трушчобах Сітэ-Салей. Ён распытаў пра сітуацыю на Гаіці і падтрымаў намаганні манахіні на карысць дзяцей з бедных сем'яў.**

Французская манахіня жыве ў сталіцы Гаіці з 1999 года, прысвячаючы сябе клопату пра "маленькі статак", які складаецца з дзяцей надзвычай беднага і густанаселенага раёна Сітэ-Салей. У інтэрв'ю Vatican News яна падзялілася ўражаннямі ад тэлефоннай размовы з Папам Францішкам: "Для мяне гэта стала вялікім сюрпрызам. Калі зазваніў тэлефон, я, відавочна, зусім не чакала, што мне патэлефануе Святы Айцец. Ён падбадзёрыў мяне і падзякаваў за тое, што я застаюся побач з дзецьмі. Ён запэўніў мяне ў сваіх малітвах. Гэта сапраўды кранула мяне. Што яшчэ ўразіла мяне падчас размовы, дык гэта голас Святога Айца. Я адчула вялікую мяккасць і дабрыню!"

Па словах манахіні, тэлефонны званок Папы "прынёс радасць і надзею многім людзям", таму што быў адрасаваны не толькі ёй, "гэта быў сапраўдны жэст у адносінах да дзяцей і найбяднейшых людзей Гаіці".

### Штодзённае жыццё ў Порт-о-Прэнсе

"Вось ужо некалькі гадоў у працоўных кварталах адбываюцца сутыкненні паміж узброенымі групоўкамі. Банды становяцца ўсё больш магутнымі і незаўсёды абмяжоўваюцца працоўнымі кварталамі, але прысутнічаюць практычна ў кожным раёне сталіцы і нават у некалькіх правінцыйных гарадах. У выніку людзі жывуць у рэальным страху быць абрабаванымі ў любы момант", – распавяла сястра Паэзі.

"Калі банда ўрываецца ў раён, усім даводзіцца ратавацца ўцёкамі. Вы бачыце, як людзі бягуць са сваімі дзецьмі. Падпальваюць дамы, гэта вядзе да поўнага спынення дзейнасці ў краіне. Найбяднейшыя людзі жывуць у залежнасці ад рынкаў, але калі сітуацыя пагаршаецца, калі на вуліцах гвалт, стральба і барыкады, рынкі не могуць працаваць. Гэта павялічвае беднасць і голад", – патлумачыла манахіня.

### Выкраданні людзей

На пытанне пра тое, ці адчувае яна сябе ў бяспецы пасля нядаўняга выкрадання шасці манахінь, сястра Паэзі адказала, што "выкраданні людзей у Порт-о-Прэнсе закранаюць усе пласты грамадства. Пэўныя людзі могуць стаць асаблівай мішэнню, напрыклад, вельмі багатыя, якіх выкрадаюць у абмен на выкуп. Часам выкрадаюць і звычайных мінакоў, пасажыраў грамадскага транспарту, людзей не асабліва заможных. У выпадку з шасцю манахінямі цяжка сказаць. У мяне не ўзнікла адчування, што Касцёл стаў асаблівай мішэнню. Яны дзейнічалі ў надзеі атрымаць выкуп".

### Становішча ўцекачоў

Паводле дадзеных ААН, у выніку гвалту на Гаіці больш за трыста тысяч чалавек былі вымушаныя пакінуць свае дамы. Адказваючы на пытанне, дзе знаходзяць прытулак перамешчаныя сям'і, манахіня патлумачыла, што "не існуе ніякіх пляцовак, нічога паспраўднаму арганізаванага, каб прыняць іх... У большасці выпадкаў людзі адпраўляюцца да сваякоў, якія звычайна прымаюць іх гасцінна. Але гэта доўжыцца некалькі дзён, потым становішча невыносна. Сем'і жывуць у невялікіх дамах, часта ў адным пакоі месціцца тузін чалавек. Людзі, якія прыбываюць, страцілі ўсё і залежаць ад сям'і, которая іх прымае. Гэта сапраўды складана. Мы бачым людзей, што спяць на вуліцах са сваімі дзецьмі, чаго раней у Порт-о-Прэнсе не было", – падзялілася манахіня.



### Дапамога дзецям

На пытанне пра тое, якая будучыня чакала б шматлікіх беспрытульных дзяцей без дапамогі Касцёла, сястра Паэзі адказала, што "яны былі б кінутыя на волю лёсу і жылі б у галечы. Што б з імі стала? Толькі Пан ведае. Нядаўна некалькі маці сказалі мне: "Сястра, калі б не ты, мы б усе памерлі". Думаю, яны трохі перабольшвалі, але гэта тое, што яны адчуваюць".

"Часам я нават здзіўляюся, як людзям удаецца выжыць, калі яны па некалькі дзён абыходзяцца без ежы, не маюць нічога. Пан прысутнічае. (...) Ён ніколі не пакідае сваіх дзяцей", – адзначыла манахіня.

# Папа Францішак падзяліўся ўспамінамі пра Бэнэдыкта XVI у новай кнізе

**"У нас з Бэнэдыктам былі вельмі глыбокія адносіны. Я хачу, каб гэта было вядома, і я хачу, каб гэта было вядома без пасярэднікаў", – адзначыў Пантыфік у новай кнізе, якая пабачыць свет праз некалькі месяцаў.**

Папа Францішак расказаў пра свае адносіны з Бэнэдыктам XVI у інтэрв'ю іспанскаму ватыканісту і рымскаму карэспандэнту тэлеканала ABC Хаўеру Марцінасу-Бракалю. З красавіка яно выйдзе асобнай кнігай на іспанскай мове пад назвай "Наступнік. Мае ўспаміны пра Бэнэдыкта XVI (El sucesor. Mis recuerdos de Benedicto XVI)".

На старонках выдання Папа распавядае, што з Бэнэдыктам XVI яго лучыла сяброўства, якое ўзнікла вельмі даўно, калі яны абодва яшчэ былі кардыналамі падчас доўгага пантыфікату Яна Паўла II. Ён падзяліўся многімі ўспамінамі, у тым ліку пра дзень, калі Ёзэф Ратцынгер абвясціў пра адстаўку з пасады Біскупа Рыма.

"У нас з Бэнэдыктам былі вельмі глыбокія адносіны. Я хачу, каб гэта было вядома, і я хачу, каб гэта было вядома без пасярэднікаў. Ён быў чалавекам, які меў адвагу падаць у адстаўку, і з таго моманту працягваў суправаджаць Касцёл і свайго наступніка", – зазначыў Святы Айцец.

Папа Францішак прызнаўся, што шчыра абмяркоўваў з Бэнэдыктам XVI розныя праблемы. "Мы гаварылі пра ўсё і вельмі свабодна. Калі я казаў яму пра якія-небудзь цяжкасці, ён адказваў: "Ну, трэба ўлічваць тое і іншае". Ён заўсёды пашыраў кругагляд. У яго была здольнасць пашырыць перспектыву, каб дапамагчы мне прыняць правільнае рашэнне. Ён ніколі не казаў: "Я не згодны". Памятаю, што замест гэтага ён прамаўляў: "Гэта добра. Але трэба ўлічваць і іншы аспект...". Ён пашыраў кругагляд, заўсёды пашыраў...", – падзяліўся Пантыфік.



Старонка 2 падрыхтаваная па матэрыялах Vatican News



# Святы Айцец заклікае маліцца за невылечна хворых людзей

Папа Францішак заклікаў маліцца на працягу лютага 2024 года за невылечна хворых людзей. Сваю інтэнцыю ён агучыў і патлумачыў у відэароліку Папскай сусветнай сеткі малітвы.

"Калі кажуць пра смяротныя хваробы, часта блытаюць два паняцці: немагчыма вылечыць і немагчыма дапамагчы. Але гэта два розныя паняцці. Нават калі шанцы на выздараўленне мінімальныя, усе хворыя маюць права на медыцынскае, псіхалагічнае, духоўнае і чалавечае суправаджэнне. Часам яны не могуць размаўляць, часам нам здаецца, што яны не пазнаюць нас, але калі мы трымаем іх за руку, то разумеем, што яны з намі на адной хвалі. Аздараўленне дасягаецца не заўсёды, але мы заўсёды можам паклапаціцца пра хворых, можам ставіцца да хворых з пяшчотай", – сказаў Папа.

Святы Айцец нагадаў словы, якія прамовіў святы Ян Павел II: "Варта лячыць, калі гэта магчыма, але клапаціцца трэба заўсёды"."Менавіта тут на дапамогу прыходзіць паліятыўная медыцына, якая забяспечвае пацыенту не толькі медыцынскую дапамогу, але таксама чалавечае, блізкае суправаджэнне. У гэтыя цяжкія хвіліны нельга пакідаць сем'і ў адзіноце: іх роля з'яўляецца вырашальнай. У іх павінна быць дастаткова сродкаў для аказання фізічнай, духоўнай і сацыяльнай падтрымкі", – заявіў Пантыфік.

"Будзем маліцца, каб хворыя ў тэрмінальнай стадыі жыцця, а таксама іх сем'і заўсёды атрымлівалі неабходны клопат і суправаджэнне як з медыцынскага, так і з чалавечага пункту гледжання", – агучыў малітоўную інтэнцыю на люты Святы Айцец.

# У Польшчы думаюць скасаваць Касцельны фонд. Што гэта такое і чым яго заменяць?

**Новыя ўлады Польшчы збіраюцца зменшыць магчымасці дзяржаўнага фінансавання канфесіяў. Змены, як плануецца, павінны запрацаваць з 2025 года. Што канкрэтна прапануецца зрабіць і якая сістэма дзейнічае ў Польшчы (ды іншых краінах Еўропы цяпер) – у нашым аглядзе.**

Урад у Польшчы змяніўся па выніках парламенцкіх выбараў у кастрычніку 2023 года. Партыя "Грамадзянская платформа", якая разам з саюзнікамі стварыла новую ўрадавую кааліцыю, уключыла змяншэнне дзяржаўнага фінансавання ў сваю выбарчую праграму. У прыватнасці, яна абяцала ліквідаваць Касцельны фонд, а вызваленыя грошы скіраваць на падтрыманне мастацтва і мастакоў. Апроч таго, планавалася забараніць фінансаванне за кошт бюджэтных сродкаў "гаспадарчай дзейнасці дыяцэзіяў, парафіяў, ордэнаў і іншых гаспадарчых элементаў цэркваў і рэлігійных аб'яднанняў, акрамя дзейнасці, якая служыць гуманітарным, дабрачынна-апякунчым, навуковым і адукацыйным мэтам".

І вось 28 снежня 2023 года новы прэм'ер-міністр Дональд Туск, які і прадстаўляе "Грамадзянскую платформу", паведаміў пра стварэнне міжміністэрскай групы, каторая зоймецца зменамі сістэмы фінансавання Касцельнага фонду і працай над новымі правіламі, вынікам чаго мусіць стаць "сістэма фінансавай адказнасці вернікаў за свае цэрквы".

Прэм'ер адзначыў, што змены будуць узгодненыя з цэрквамі. "Праца над новымі правіламі будзе накіраваная, і гэта ўжо дамоўлена, на сістэму фінансавай адказнасці вернікаў за свае цэрквы, таму мы гаворым тут пра сістэму добраахвотных падатковых адлічэнняў для людзей, зацікаўленых у падтрымцы сваёй царквы. Гэта павінна быць рашэнне вернікаў, а не дзяржавы", – заявіў Туск.

Новая сістэма мусіць запрацаваць з 2025 года. Прэм'ер падкрэсліў, што "гаворка ідзе не пра ідэалагічную вайну, а пра элементарнае пачуццё празрыстасці і прыстойнасці". "Калі мы вызвалім Касцёл ад палітычнай улады і вызвалім Касцёл ад дзяржаўных грошай, гэта будзе толькі на карысць Касцёла", – сказаў ён.

Пры гэтым існуе верагоднасць, што на прапановы такіх зменаў можа накласці вета прэзідэнт Анджэй Дуда, якога падтрымлівае кануючая партыя "Закон і справядлівасць". Наступныя прэзідэнцкія выбары, што маглі б змяніць расклад сілаў, запланаваныя на 18 мая 2025 года.

### Як фінансуецца Касцёл у Польшчы

Ксёндз-прафесар Дарыюш Валенцік, які лічыцца адным з самых вядомых экспертаў у пытанні фінансавання Касцёла, сцвярджае, што Каталіцкі Касцёл у Польшчы падтрымліваецца на 80% за кошт ахвяраванняў вернікаў і на 20% за кошт субсідый з дзяржаўных фондаў.

Найбольш значнымі субсідыямі для рэлігійных аб'яднанняў, зарэгістраваных у Польшчы, карыстаецца Касцельны фонд.

**Яго стварылі яшчэ за камуністычным часам, у 1950 годзе, у якасці кампенсацыі цэрквам за іх зямельную ўласнасць, якую канфіскавала дзяржава.**

Аднак памер рэсурсаў фонду залежыць выключна ад палітычных рашэнняў. У апошнія гады ён увесь час рос. На 2024 год бюджэт фонду складае 257 мільёнаў злотых (каля 64 мільёнаў долараў), што ўдвая больш за ўзровень 2015 года. Разам з тым да сёння польскай дзяржаве належаць больш як 62 тыс. гектараў зямлі, канфіскаваных камуністамі ў Касцёла. Паводле падлікаў у адпаведнасці з дзяржаўнымі стандартамі, за гэтыя землі Касцёлу мусілі б пералічваць штогод яшчэ больш – 334 мільёны злотых.

Сродкі фонду, згодна з законамі, могуць быць выкарыстаныя для дабрачыннай, асветніцкай і апякунскай дзейнасці, якую праводзяць касцельныя юрыдычныя асобы. Таксама яны могуць ісці на рэканструкцыю і кансервацыю гістарычных рэлігійных будынкаў. Аднак у апошнія дзесяцігоддзі Касцёл накіроўваў сродкі амаль цалкам на страхавыя ўнёскі для святароў: пенсіі, страхаванне па інваліднасці і ад няшчасных выпадкаў. Пры гэтым тыя святары, якія працуюць паводле працоўных дамоваў (напрыклад, катэхізатарамі, лектарамі, турэмнымі, бальнічнымі або ваеннымі капеланамі), плацяць уласныя пенсійныя ўнёскі.

Таксама дзяржава фінансуе вайсковых, пажарных, памежных капеланаў і тых святароў, хто працуе ў Нацыянальнай падатковай адміністрацыі і Службе дзяржаўнай абароны. Разам гэта каля 200 святароў. Таксама з дзяржаўных сродкаў атрымліваюць заробак турэмныя і бальнічныя капеланы (каля 800 чалавек), але звычайна яны працуюць няпоўны дзень або займаюцца валанцёрскай дзейнасцю.

Апроч таго, Міністэрства адукацыі пакрывае выдаткі на добраахвотныя рэлігійныя заняткі ў школе, фінансуе сем касцельных і рэлігійных універсітэтаў ды шэсць тэалагічных факультэтаў у дзяржаўных універсітэтах. Цалкам фінансуюцца за кошт бюджэту каталіцкія школы, якія атрымалі дзяржаўны статус, а недзяржаўныя школы атрымліваюць субсідыю з мясцовага бюджэту з разліку на кожнага вучня. Рэлігійныя ўстановы таксама могуць прэтэндаваць на гранты на рэстаўрацыю помнікаў.

Пры гэтым святары ў Польшчы адзіныя ў Еўропе плацяць падаткі ў залежнасці ад колькасці жыхароў парафіі. Памер аднаразовай выплаты падатковая інспекцыя вызначае асобна за кожны падатковы год.

Рэлігійныя юрыдычныя асобы ў Польшчы вызваленыя ад некаторых падаткаў. У прыватнасці, яны не плацяць падатак за нежылую нерухомасць, калі на ёй не вядзецца прадпрымальніцкая дзейнасць. Аднак эканамічная дзейнасць Касцёла абкладаецца падаткам.

### Што прапануецца змяніць

Туск, які ўжо займаў пасаду прэм'ера ў 2007 – 2014 гадах, спрабаваў змяніць сістэму фінансавання рэлігійных арганізацыяў і раней. У прыватнасці, ён прапаноўваў замяніць Касцельны фонд штогадовымі падатковымі адлічэннямі жыхароў краіны. Паводле польскага заканадаўства падаткаплатнікі могуць пералічваць 1,5% сваіх падаткаў не ў бюджэт краіны, а грамадска-карысным арганізацыям на свой выбар. Грамадзяне Польшчы і цяпер могуць плаціць частку свайго падатку касцельным установам, але толькі тым, што атрымалі статус грамадска-карысных.

У 2013 годзе ўрад Туска дамовіўся з Канферэнцыяй епіскапату Польшчы (КЕП), што грамадзяне змогуць пералічваць 0,5 % свайго падатку на карысць цэркваў. Таксама ўводзіўся перыяд, падчас якога дзяржава мусіла дафінансоўваць атрыманыя ад падаткаў сродкі ў выпадку, калі б яны былі меншымі за памер Касцельнага фонду. КЕП з гэтым пагадзілася, але частка меншых цэркваў і рэлігійных аб'яднанняў, напрыклад, Праваслаўная Царква, выступілі супраць гэтага. У выніку рэформа так і не прайшла.

На сёння пытаннем застаецца працэнт падатку, які змогуць пералічваць вернікі сваім цэрквам. Як піша money.pl, Польская народная партыя (ПНП), каторая ўваходзіць ў кіроўную кааліцыю з "Грамадзянскай платформай" і заблакавала простае скасаванне Касцельнага фонду, лічыць, што працэнт пералічаных падаткаў мусіць забяспечыць нармальнае функцыянаванне Касцёла.

З неабходнасцю рэформы фінансавання згодны і вядомы святар айцец Павел Гужынскі. Аднак добраахвотны падатковы вылік ён лічыць дрэннай ідэяй, бо ў Польшчы прыналежнасць да Касцёла "ніколі не патрабавала ніякай аплаты".

"Замена фонду падатковым вылікам кардынальна зменіць сітуацыю. На жаль, у Нямеччыне гэта працуе, але нямецкі Касцёл багаты. У Швейцарыі таксама існуе падатковы вылік для Касцёла, але яго плацяць усе, незалежна ад таго, вернікі яны ці не. Спісанне ідзе ў нешта накшталт фонду, і назапашаныя ў ім сродкі дзеляцца паводле строга вызначаных правілаў", – кажа айцец Гужынскі, які лічыць швейцарскае рашэнне лепшым для Польшчы за нямецкае.

На думку святара, павінен быць пераўтвораны не толькі Касцельны фонд, але і ўся ўнутраная фінансавая структура Касцёла. Пры гэтым ён нагадаў, што ўтрыманне Касцёлам шматлікіх гістарычных будынкаў, якія ўяўляюць нацыянальную спадчыну, – касцёлаў, кляштараў і іншага, "каштуе грошай". Таму застаецца адкрытым пытанне, наколькі дзяржава павінна ўдзельнічаць у гэтым, бо "гэтым будуць карыстацца ўсе".

Таксама не вырашанае пытанне фінансавання выкладання рэлігіі ў школах, выплат некаторым святарам ды фінансавання тых рэлігійных аб'яднанняў, што не маюць вялікай колькасці вернікаў, якія б маглі пералічваць ім частку свайго падатку.

### Як фінансуюцца цэрквы ў Еўропе

Спосабы фінансавання цэркваў у Еўропе моцна адрозніваюцца. У некаторых краінах Еўразвязу яны ўтрымліваюцца за кошт дзяржавы пры невялікай долі ўласных сродкаў. Найперш гэта датычыць Грэцыі і Даніі, дзе існуюць дзяржаўныя цэрквы: праваслаўная і лютэранская адпаведна. Там царква разглядаецца як важны сацыяльны інстытут на службе дзяржавы, а святары і іншыя царкоўныя служачыя маюць статус дзяржаўных чыноўнікаў. Падобная сістэма дзейнічае таксама ў пераважна каталіцкім Люксембургу.

**У большасці краін Еўразвязу існуе "супольная" мадэль фінансавання.**

Там дзяржава ў значнай ступені ўдзельнічае ў падтрыманні цэркваў і рэлігійных аб'яднанняў, бо тыя часта замяняюць яе, дапамагаючы людзям, якія апынуліся ў цяжкай сітуацыі, клапоцяцца пра захаванне культурнай спадчыны, кіруюць адукацыйнымі ўстановамі ўсіх узроўняў ды агулам навучаюць каштоўнасцям, неабходным для падтрымання агульнага дабра ўсяго грамадства і яго гарманічнага развіцця.

З гэтай прычыны рэлігійныя арганізацыі атрымліваюць субсідыі на сацыяльную і дабрачынную дзейнасць нароўні з аналагічнымі дзяржаўнымі ўстановамі ці ўстановамі мясцовага самакіравання. Таксама субсідуецца сістэма рэлігійнай адукацыі, калі яна адпавядае крытэрам дзяржаўных школ, фінансуюцца заняткі рэлігіі ў сістэме дзяржаўнай адукацыі, служба капеланаў у турмах, бальніцах ці войску, ахова помнікаў культурнай спадчыны рэлігійнымі аб'яднаннямі. Апроч таго, ёсць падатковыя льготы для рэлігійных арганізацый і пэўныя сродкі на культавую дзейнасць. Такія прынцыпы ўласцівыя практычна ўсім краінам Еўразвязу, нават такім свецкім, як Францыя ці Славенія.

Апроч гэтага, у некаторых краінах (Нямеччыне, Аўстрыі, Швецыі, Фінляндыі і Швейцарыі) існуюць абавязковыя царкоўныя падаткі, а ў Італіі, Іспаніі, Венгрыі і Партугаліі – добраахвотныя. Таксама ў шэрагу краін рэлігійныя аб'яднанні атрымліваюць вялікае фінансаванне з боку дзяржавы, хоць царкоўнага падатку ў іх няма. Гэта Бельгія, Харватыя, Славакія, Мальта.

У іншых краінах (Кіпр, Францыя, Нідэрланды, Ірландыя, Літва, Латвія, Эстонія, Чэхія, Славенія) цэрквы ўтрымліваюцца ў асноўным за кошт добраахвотных ахвяраванняў вернікаў пры невялікай падтрымцы дзяржавы.

**Што датычыць Беларусі, то нашая краіна належыць да ліку тых, дзе фінансавая роля дзяржавы ў дзейнасці рэлігійных арганізацыяў адна з найменшых у Еўропе.**

Рэлігійныя арганізацыі фінансуюцца пераважна за кошт ахвяраванняў і спонсарскай дапамогі. Пры гэтым дзяржава дае шэраг падатковых льготаў на дзейнасць рэлігійных арганізацый, не абкладае падаткамі іх зямлю і культавыя будынкі, а таксама ахвяраванні і рэалізацыю рэлігійнай літаратуры і прадметаў. Таксама для рэлігійных арганізацыяў устаноўлены паніжальныя тарыфы на камунальныя паслугі. Пры гэтым у некаторых выпадках за карыстанне культавымі будынкамі, якія належаць дзяржаве, рэлігійныя арганізацыі мусяць плаціць арэндную плату.

*Мечыслаў Гапановіч*

# Каталіцкія святыні мястэчка Лужкі і ваколіцаў

**Сёлетні год багаты на гістарычныя юбілеі. Спаўняецца 510 гадоў ад першай згадкі ў гістарычных крыніцах адразу некалькіх паселішчаў нашага рэгіёна. У 1514 годзе ў дакументах упершыню былі згаданыя Глыбокае, Верхняе, Казлоўшчына, Мосар, Лужкі. Пагаворым гэтым разам пра Лужкі, а найперш пра хрысціянскія святыні, якія існавалі ў гэтым паселішчы.**

Канечне ж, першая згадка не азначае даты заснавання населенага пункта. Каля Лужак, у Гарадцы, у VII-VIII стагоддзях было ўмацаванае гарадзішча полацкіх крывічоў, якое з часам яны пакінулі. Дакументы са згадкай Лужак у 1514 годзе знайшоў у 1930-х гадах у віленскіх архівах гісторык Отан Гедэман, аўтар кнігі “Валерыянаўскія школы кс. піяраў у Лужках”. Паводле тых крыніц, у пачатку XVI ст. сяло Лужкі было ўласнасцю путных слугаў Полацкага замка. “Путныя слугі” – гэта катэгорыя сялянаў, якія мелі больш высокі статус, у некаторым сэнсе набліжаны да шляхты. У 1514 годзе путныя слугі прадалі Лужкі вялікаму пісару літоўскаму, выбітнаму дыпламату Івану Сямёнавічу Сапегу. Наступныя больш за дзвесце гадоў Лужкі належалі да ўладанняў Сапегаў з цэнтрам у Іказні. Адным з уладальнікаў гэтага абшару быў канцлер Леў Сапега, аўтар Трэцяга Статута ВКЛ.

Гісторыя Лужак вядомая толькі ўрыўкамі, многія “белыя плямы” яшчэ давядзецца закрыць даследчыкам. Зрэшты, даступных звестак з кожным годам становіцца ўсё болей. Напрыклад, незадоўга да напісання гэтага артыкула я натрапіў у лічбавых зборах бібліятэкі Акадэміі навук Літвы на дакумент з 1667 года, які датычыць Лужак. У гэты час ва ўладаннях Сапегаў кватаравала некалькі ротаў драгуноў (лёгкай кавалерыі) Рэчы Паспалітай, якія паводзілі сябе так нахабна, што 10 снежня 1666 года ўламаліся ў царкву ў Лужках і забралі збожжа, каторае жыхары спрабавалі схаваць ад рабунку ў сценах святыні. А ў лужэцкага святара марадзёры забралі карову. У гэтым жа дакуменце Лужкі называюцца мястэчкам, а іх жыхары – мяшчанамі. Царква ў Лужках была грэка-каталіцкая: там служылі набажэнствы на царкоўнаславянскай мове ва ўсходнім абрадзе, але прызнавалі ўладу Папы Рымскага.

У 1680 годзе як пробашч царквы згадваецца айцец Васіль Гінько. Паводле візітацыі 1703 года, царква была драўляная, “добра накрытая і агароджаная”, мела тытул святога Мікалая. Пробашчам быў айцец Ян Мачульскі. Святыня мела рукапіснае Евангелле ў бронзавай апраўе, рукапісны Апостал, друкаваныя Псалтыр, Служэбнік і Трэбнік.

У 1734 годзе Аляксандр Сапега прадаў Лужкі полацкаму кашталяну Валерыяну Антонію Жабу. У адрозненне ад Сапегаў, якія не жылі тут, Жабы заклалі сваю галоўную сядзібу ў Гарадцы побач з Лужкамі. З гэтага моманту пачынаецца развіццё Лужак, у тым ліку заснаванне рымска-каталіцкай святыні.

Калі дата фундацыі лужэцкага касцёла вядомая, то дакладны год, калі скончылася будоўля, устанавіць не ўдалося. У многіх публікацыях годам пабудовы касцёла названы 1744 – сёлета мусіла б споўніцца 280 гадоў святыні. Аднак дакументы сведчаць, што будоўлю скончылі пазней. 24 жніўня 1741 года Валерыян Антоні Жаба піша тэстамэнт, у якім аддае фальварак Валерыянаў паміж Лужкамі і Гарадцом, а таксама маёнтак Весніцк (цяпер – Ушацкі раён) ордэну піяраў. Назва гэтага рымска-каталіцкага ордэна паходзіць ад лацінскага слова “pius”, што азначае “пабожны”. Ордэн піяраў, або “ордэн пабожных школаў” заснаваў святы Юзаф Каласанс, які ў 1597 годзе адкрыў у Рыме першую ў Еўропе бясплатную ўсеагульную школу.

У XVIII ст. піяры зрабілі вялікі ўнёсак у развіццё сярэдняй і вышэйшай адукацыі ў Рэчы Паспалітай, сталі вядомымі дзякуючы заснаванню ў 1740 годзе ў Варшаве Collegium Nobilium.

**Заснаванне Жабам піярскай школы ў Лужках было вялікім унёскам у развіццё адукацыі ў нашым рэгіёне.**



Іван Сямёнавіч Сапега, уладальнік Лужак у 1514 г.

У тэстамэнце Валерыян Жаба абяцае яшчэ пры жыцці пабудаваць касцёл, кляштар і школу. Жаба збіраўся пачаць будаўніцтва касцёла ў 1742 годзе, а скончыць – у 1745-ым. Аднак будоўля пайшла не так хутка. У 1752 годзе Жаба наказвае жонцы, Яанне са Скарульскіх, каб скончыла будоўлю касцёла на працягу двух гадоў. Праўдападобна, гаворка ішла пра заканчэнне ўнутранага ўбранства святыні. Валерыян Жаба памёр у лютым 1753 года, але і яго ўдава не скончыла працы з касцёлам. Справу працягнуў сын Валяр’яна, шамбелян Ігнацы Ян Жаба.

Касцёл святога Арханёла Міхала ў Лужках збудаваны ў папулярным тады на землях Вялікага Княства Літоўскага стылі віленскага барока. Лужэцкая святыня вылучаецца ўнікальным фасадам: вежы касцёла выступаюць з яго наперад і павернутыя пад вуглом.

Доўгі час было невядомым імя архітэктара, які праектаваў і збудаваў лужэцкі касцёл. Толькі ў 2021 годзе польскі даследчык Войцех Бабэрскі апублікаваў знойдзены ў Нацыянальным архіве ў Кракаве дакумент, з якога вынікае, што аўтарам касцёла ў Лужках быў Абрагам Вюрцнэр. Гэты архітэктар нарадзіўся ў імперыі Габсбургаў, але большую частку жыцця правёў у Вялікім Княстве Літоўскім. Быў адным з пачынальнікаў віленскага барока, да яго творчай спадчыны належаць тры касцёлы ў Вільні, вежы касцёла кармелітаў босых (цяпер праваслаўнага сабора Раства Багародзіцы) ў Глыбокім, касцёлы ў Селішчы (цяпер Ушацкі раён) і Лужках. Касцёл у Лужках спачатку не быў парафіяльным. Лужкі належалі да Задарожскай, а з пачатку XIX ст. – да Германавіцкай парафіі.

Школа айцоў-піяраў пачала дзейнічаць ужо пры жыцці Валерыяна Жабы. Як дату яе заснавання звычайна пазначаюць 1745 год. Дакументы з 1747/48 навучальнага года сведчаць, што школа мела даволі насычаную праграму, там вывучалі граматыку, сінтаксіс, паэтыку і рыторыку. У спісах вучняў можна знайсці прозвішчы ўсіх вядомых шляхецкіх родаў, якія жылі ў гэты час у ваколіцы. Колькасць вучняў вагалася ад 110 да 180 чалавек. Навучанне было бясплатнае, але бацькі забяспечвалі харчаванне. Некаторыя вучні з бяднейшай шляхты мелі ўтрыманне за кошт кляштара. Сярод вучняў лужэцкай школы не было сялянаў, бо ў той час сярэдняя адукацыя яшчэ не была для іх даступная. Навучанне ў школе доўжылася шэсць гадоў. Праграма ўключала каталіцкую рэлігію, права, матэматыку, фізіку, хімію, рускую, польскую, французскую і лацінскую мовы. Школа мела бібліятэку, якая ў найлепшыя гады мела каля дзвюх тысяч тамоў і была адным з найбольшых кнігазбораў у рэгіёне. У фізічным кабінеце былі найноўшыя прыборы, такія як вольтаў слуп і мікраскоп. Побач са школай быў пасаджаны батанічны сад. Выпускнікі маглі працягваць навучанне ў Віленскім універсітэце. У кляштары было ад 7 да 10 законнікаў, большасць з якіх адначасова былі выкладчыкамі ў школе.



Працэсія ў Лужках, міжваенны перыяд. Фота са збораў Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея.

Жабы развівалі і само мястэчка Лужкі. Яны стварылі новы план забудовы: у цэнтры заклалі прамавугольную рынкавую плошчу, на якой адбываліся кірмашы. Вакол плошчы роўнымі лініямі паставілі будынкі, а з кутоў плошчы ў розныя бакі разыходзіліся вуліцы. Уладальнікі запрасілі з розных далёкіх месцаў рамеснікаў розных спецыяльнасцяў, якія выраблялі вяроўкі, конскую вупраж, медны посуд, тканіны, колы, драўляныя вырабы. Гэтыя рамеснікі прадавалі свае вырабы на абшары да ста кіламетраў. На кірмашы ў Лужкі збіраліся людзі з усёй ваколіцы. У дакументах канца XVIII ст. Лужкі называлі ўжо не мястэчкам, а “местам”, то бок “горадам”. “Лужкі кашталяна Жабы вядомыя выдатнымі рамеснікамі і заграніччным парадкам у месце”, – пісаў у 1784 годзе кс. Францішак Жаба, пробашч з Новага Пагоста.



Вучань школы ў Лужках Юльян Мацкевіч з уласнаручна зробленым макетам касцёла, 1925 г. Фота: Мястэчка Лужкі/Ok.ru

На рацэ Мнюціцы Жабы пабудавалі два млыны, тартак (лесапілку) і фолюш (фабрыку сукна). У 1788 годзе Жабы пабудавалі мураваную грэка-каталіцкую царкву, якой быў нададзены тытул Раства Багародзіцы. Святыня захавалася да нашага часу (цяпер праваслаўная), і па выглядзе акон, пілястраў і карнізаў на яе бакавых сценах можна зразумець, што яна была збудаваная ў стылі барока. Першапачаткова царква мела над уваходам барочны франтон вышынёй каля васьмі метраў, знішчаны ў час перабудовы царквы ў 1885 годзе.

У 1793 годзе Лужкі былі далучаныя да Расійскай імперыі. У першыя гады гэта не асабліва паўплывала на жыццё мястэчка, касцёла, кляштара і школ. Але ўжо ў 1820-я гады ⇒



Царква Раства Багародзіцы ў Лужках, збудаваная як грэка-каталіцкая ў 1788 г. Фота пач. XX ст.



Працэсія каля касцёла ў Лужках, лета 1941 г. Фота з калекцыі аўтара.


А. Язэп Германовіч


Кс. Чэслаў Кулікоўскі ў час службы капеланам у польскай Арміі Андэрса.


Кс. Адам Масюляніс.


Дзяўчаты з Лужак каля капліцы-"слупа". 50-я гг. ХХ ст. Фота: Мястэчка Лужкі/Ok.ru

⇐ расійскія школьныя ўлады сталі націскаць, патрабуючы весці перапіску на рускай мове. Калі 29 лістапада 1830 года ў Варшаве пачалося паўстанне за аднаўленне незалежнасці Рэчы Паспалітай, шляхта Дзісенскага павета яго падтрымала. 12 красавіка 1831 года шляхта з усёй Дзісеншчыны разам з узятымі са сваіх маёнткаў прыгоннымі сялянамі сабралася ў Лужках. Сярод паўстанцаў было не менш як сорак чалавек з ліку выпускнікоў лужэцкай школы. Прыёр кляштара піяраў айцец Адам Татур адслужыў у лужэцкім касцёле набажэнства за паўстанцаў. 1 мая паўстанцы вырушылі ў бок Дзісны, якую здабылі на кароткі час.

Потым за падтрымку паўстання былі асуджаныя чатыры манахі з лужэцкага кляштара піяраў.

Пасля разгрому паўстання ўлады Расійскай імперыі пачалі рэпрэсіі супраць каталіцтва, асабліва супраць манаскіх ордэнаў і навучальных установаў. Школа ў Лужках дзейнічала яшчэ год, а ў 1832 годзе яе зачынілі. Пакінутыя будынкі кляштара і школы сталі руінамі аж да пачатку ХХ ст.

У 1839 годзе грэка-каталіцкая парафія і царква былі далучаныя да праваслаўя. У 1840 годзе ўтварылі рымска-каталіцкую парафію ў Лужках, цэнтрам якой стаў касцёл святога Арханёла Міхала. У некаторых публікацыях пішуць, што ў 1843 годзе лужэцкі касцёл перарабілі на царкву, аднак гістарычныя крыніцы не пацвярджаюць гэтага.

У 1885 годзе мястэчка пацярпела ад пажару, які пашкодзіў праваслаўную, былую грэка-каталіцкую царкву. Падчас адбудовы праваслаўны настаяцель вырашыў знішчыць барочны франтон святыні, бо ўпрыгажэнне "придавало церкви видъ костёла". Ён жа загадаў разбурыць уніяцкія элементы інтэр'еру – "всё это следовало уничтожить, чтобы сделать церковь чисто православной".

У 1907 годзе лужэцкія парафіяне сутыкнуліся ў судзе з расійскімі ўладамі. Раней яны паставілі крыж пасярод рынкавай плошчы, на месцы, дзе крыж стаяў здаўна. У адказ расійскія ўлады выклікалі дзесяць чалавек у суд за "загромождение дороги". Бараніць крыж стаў граф Віктар Зыберк-Плятар, які заявіў, што рынак з'яўляецца яго зямлёй і што крыж пастаўлены з яго згоды. У выніку крыж застаўся на месцы.

Па выніках Рыжскай мірнай дамовы 1921 года Лужкі апынуліся ў складзе Польскай Рэспублікі. Пробашчам парафіі ў тым жа годзе быў прызначаны кс. Язэп Германовіч – беларус, пісьменнік, вядомы пад псеўданімам Вінцук Адважны. Ён ужываў у казаннях і катэхізацыі беларускую мову. Супраць гэтага паўстала частка польскай інтэлігенцыі Лужак на чале з кіраўніком школы Баліньскім: яны збіралі подпісы, а таксама пісалі ў газеты лісты з паклёпамі на кс. Германовіча.

Вельмі цёпла пра гэтага святара адгукаўся Васіль Стома, аўтар надзвычай змястоўных успамінаў пра Лужкі, выдадзеных пад загалоўкам "Маё мястэчка": "Будучы ўжо большымі хлопцамі, я і мае сябры часта наведвалі а. Язэпа, нібы "прыпадкова" зайшоўшы ў клябанію. Дзеля гэтага, ідучы са школы, мы "скарачалі" дарогу, а фактычна рабілі кіламетра паўтара кругу, абы толькі зайсці да а. Язэпа. Ён жа заўсёды спатыкаў нас з прыветнай усмешкай і зараз жа выносіў для кожнага вялікую лусту хлеба, насмараваную духмяным мёдам, і спору чырвоных яблык. Мы, ведама, не вельмі адмаўляліся ад пачастунку, а ў міжчасе а. Язэп жартаваў з намі, апавядаючы ўсякія смешныя гісторыі, дэкламуючы беларускія вершы або тлумачачы нам, хто мы такія і чым мы рознімся ад палякаў і расейцаў. Урэшце, як бы штосьці прыпомніўшы, ён ласкава ўсміхаўся і казаў: – А можа б вы зайшлі ў касцёл і памаліліся, малітва нікому не зашкодзіць".

У 1924 годзе кс. Язэп Германовіч пакінуў парафію ў Лужках і ўступіў у кляштар марыянаў у Друі, спадзеючыся, што там зможа больш плённа паслужыць евангелізацыі беларускага народа, а таксама справе адраджэння Уніі. Усё жыццё кс. Германовіч пісаў па-беларуску мастацкія, духоўныя і публіцыстычныя творы. Прайшоў савецкія лагеры, пасля апынуўся на эміграцыі. Быў рэдактарам беларускага каталіцкага часопіса "Божым шляхам". Памёр у Лондане ў 1978 годзе.

У жніўні 1939 года пробашчам быў прызначаны кс. Чэслаў Кулікоўскі. Калі 1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, ён быў мабілізаваны як капелан і трапіў у палон да Саветаў. Замест яго пробашчам стаў кс. Адам Масюляніс. Ён запомніўся як старанны пробашч, у час нямецкай акупацыі арганізоўваў у Лужках рэкалекцыі для святароў Глыбоцкага дэканата. Быў арыштаваны немцамі ў час акцыі супраць польскай інтэлігенцыі і расстраляны 4 ліпеня 1942 ва ўрочышчы Барок каля Глыбокага. Разам з ім загінулі яшчэ чатыры святары і больш за дзясятак свецкіх асобаў.

Ад савецкай улады пацярпеў а. Антоні Зяралка, францішканін. Ён стаў пробашчам у 1948 годзе. Арыштаваны 6 студзеня 1950 года нібыта за "антысавецкую агітацыю". Вызвалены пасля смерці Сталіна ў 1956 годзе. Калі вярнуўся ў Лужкі, улады не дазволілі яму служыць, і праз два гады святар быў вымушаны выехаць у Польшчу. Касцёл зачынілі і ператварылі ў склад збожжа і ўгнаенняў. Вярнулі святыню вернікам у час гарбачоўскай "перабудовы" ў 1988 годзе.

Акрамя парафіяльнага касцёла ў Лужках і ваколіцах ёсць яшчэ некалькі сакральных аб'ектаў. Па дарозе да маёнтка Гарадзец была цагляная атынкаваная калона. Васіль Стома ўспамінае, што на версе гэтай калоны знаходзілася напаўсатлелая драўляная фігура нейкага святога. Мясцовыя жыхары называлі гэтую калону "слуп", а палеткі каля яе – Падслуп'е. У 30-я гады калону адрамантавалі, а на версе паставілі фігуру Езуса з крыжам. Калону знішчылі ў 60-я гады камуністычныя ўлады: зачапілі трос да трактара і павалілі.

Каля Гарадца на насыпе, які мясцовыя жыхары называлі "валатоўка", стаіць каплічка з выявай Хрыста, Які нясе крыж. Гэта – копія каплічкі на прадмесці Сніпішкі ў Вільні, пабудаванай у 1720 годзе. Калісьці тая віленская каплічка была вельмі шанаванай святыняй, каля якой маліліся пілігрымы. Правадыр паўстання 1863 года Кастусь Каліноўскі ў час смерці меў на сабе медальён з выявай капліцы і надпісам "Пан Езус на Сніпішскай гары ў Вільні". Капліцу ў Вільні разбурылі ў 1950 годзе камуністычныя ўлады дзеля пашырэння дарогі. Капліца ў Лужках шчасліва перастаяла савецкую ўладу.

Шматлікія гістарычныя крыніцы згадваюць рымска-каталіцкую капліцу, якая існавала ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. у двары Гарадзец. Верагодна, гэта прыватная капліца ўладальнікаў маёнтка: у той час магнаты часта мелі ў сваіх маёнтках капліцы, а часам утрымлівалі святара-капелана. Праўдападобна, што капліца месцілася ў тым будынку побач з палацам, дзе да нядаўняга часу знаходзіўся музей. На старых здымках бачна, што будынак меў барочны франтон.

Драўляная капліца святога Андрэя Баболі знаходзіцца на могілках каля вёскі Дворнава. Набажэнствы там служыліся ў вялікія святы. Беларускі мастак Язэп Драздовіч запісаў у дзённіку, як быў у гэтай капліцы на набажэнстве ў час велікодных святаў у 1935 годзе: "У капліцы з мастацка выразьбаваным укрыжаваннем над алтаром сабралася шмат акольных вялікоднікаў – кабеты і дзеці ўпераздзе, а мужчыны ззаду, панаваў вялікодны радасны настрой. Адбывалася спатканне тутэйшым народам вялікага свята вясны, свята сымбалю вялікай пабеды аднаго чалавека над многімі, якія яго аклявяталі, прадалі, пагардзілі, абсчэсцілі, прынізілі, знікчэмнілі, абяспраўілі ў правах чалавечых і са здзекам умярцвілі, а ён – ён уваскрос! Як тая, знішчаная смяротнымі марозамі нашай паўночнай зімы, вясною прырода. І як тут не цешыцца і не пяяць "Алілуя!" І я ад самага найшчырэйшага сэрца пяяў".

***Кастусь Шыталь***

*Аўтар дзякуе Таццяне Заблоцкай і Дзянісу Лісейчыкаву за кансультацыі ў час напісання артыкула.*


Капліца ў Гарадцы, 1936г. Фота: Фэлікс Дангель, Нацыянальны Лічбавы Архіў, Польшча.


Капліца на Сніпішках у Вільні. Фота: Ян Булгак.


Будынак у двары Гарадзец, дзе, верагодна, была капліца, 1936г. Фота: Фэлікс Дангель.

# Дэкларацыя “Fiducia supplicans”: што яна дазволіла, а што – не

**Прынятая напрыканцы 2023 года Дыкастэрыяй веравучэння дэкларацыя “Fiducia supplicans” выклікала вялікае абмеркаванне як унутры Каталіцкага Касцёла, так і за яго межамі. Ацэнкі яе часам адрозніваліся дыяметральна. А некаторыя біскупскія канферэнцыі наўпрост забаранілі святарам яе выконваць.**

18 снежня 2023 года Дыкастэрыя веравучэння апублікавала зацверджаную Папам Францішкам дэкларацыю “Fiducia supplicans”, якая сярод іншага дазваляе благаслаўленне “неўрэгуляваных” параў і параў аднаго полу.

**Пры гэтым, праўда, падкрэсліваецца, што форма благаславення не павінна атаясамлівацца з вызначаным адпаведным рытуалам, каб не блытаць гэта з благаслаўленнем, уласцівым Сакраманту Шлюбу.**

Мэта такога кроку, паводле дакумента, – паклікаць Божае благаслаўленне “да тых, хто, прызнаючы сябе бездольнымі і маючы патрэбу ў Яго дапамозе, не прэтэндуе на ўзаконенне свайго ўласнага статусу, але просіць, каб усё сапраўднае, добрае і па-чалавечы каштоўнае ў іх жыцці і стасунках было ўзбагачана, вылечана і ўзвышана прысутнасцю Святога Духа”. У выніку такога благаславення чалавечыя стасункі “маглі б выспяваць і ўзрастаць у вернасці Евангеллю, каб быць вызваленымі ад недасканаласцяў і слабасцяў і каб выяўляць сябе ва ўсё большым вымярэнні Божай любові”.

Такія благаслаўленні павінны быць даверанымі “практычнаму распазнаванню ў кожнай асобнай сітуацыі”. У “кароткай малітве, якая можа папярэднічаць гэтаму спантаннаму благаслаўленню, святар можа прасіць міру, здароўя, цярпення, дыялогу і ўзаемадапамогі, а таксама Божага святла і сілы для таго, каб выконваць Яго волю ў поўнай меры”. Каб пазбегнуць “любой формы блытаніны і скандалу”, благаслаўленне неўрэгуляваным або аднаполым парам “ніколі не павінна ажыццяўляцца адначасова з грамадзянскімі абрадамі шлюбу або ў сувязі з імі”. Таксама нельга выкарыстоўваць адзенне, жэсты або словы, уласцівыя абраду сужэнства.

У дакуменце асабліва падкрэсліваецца, што “нават калі стасункі з Богам азмрочаныя грахом, чалавек заўсёды можа папрасіць благаслаўлення, працягваючы да Яго руку”.

### Што за Дыкастэрыя?

Дэкларацыя Дыкастэрыі веравучэння – вельмі значны дактрынальны дакумент. Папярэднюю дэкларацыю – “Dominus Jesus” – апублікавалі амаль 24 гады таму, у жніўні 2000 года. Тады Кангрэгацыю веравучэння, якая з'яўляецца пераемніцай рымскай інквізіцыі і якая з 2022 года называецца Дыкастэрыяй веравучэння, узначальваў кардынал Ёзэф Ратцынгер, які ў 2005 годзе стаў Папам Рымскім Бэнэдыктам XVI.

Дэкларацыя “Fiducia supplicans” выйшла праз пяць месяцаў пасля таго, як Папа Францішак прызначыў на пасаду яе прэфекта свайго даўняга аргенцінскага паплечніка кардынала Віктора Мануэля Фэрнандэса. Справу апошняга, дарэчы, раней разглядала Кангрэгацыя веравучэння, занепакоеная ягоным багаслоўем.

### Моцная крытыка і адмовы ад благаслаўлення

Наяўнасць дазволу на благаслаўленне аднаполых параў выклікала неразуменне ў вялікага кола вернікаў, іерархаў і цэлых біскупскіх канферэнцыяў. Ужо 18 снежня епіскапату ЗША давялося тлумачыць, што “вучэнне Касцёла аб сужэнстве не змянілася”, а сакрамантальнае благаслаўленне адрозніваецца ад душпастырскага. Канадская канферэнцыя каталіцкіх біскупаў таксама заявіла, што дакумент “яўна” пацвярджае вучэнне аб шлюбе. А дацкі біскуп Чэслаў Казон заявіў, што праблема не ў змесце дэкларацыі, “а ў тым, як яна будзе ўспрынятая і вытлумачаная”. У выніку Папа Францішак праз тры дні пасля апублікавання дакументу параіў пазбягаць “жорсткіх ідэалагічных пазіцыяў”.

Сярод іерархаў першымі негатыўна адрэагавалі на з'яўленне дакументу казахстанскія біскупы Томаш Пэта і Атаназіус Шнайдэр, якія 19 снежня забаранілі святарам і вернікам архідыяцэзіі Астаны “любую форму благаслаўлення параў у нерэгулярных сітуацыях і аднаполых параў”.

“Такое благаслаўленне наўпрост і сур'ёзна супярэчыць Аб'яўленню Божаму і непарыўнаму двухтысячагадоваму вучэнню і практыцы Каталіцкага Касцёла. Благаслаўленне пар у нерэгулярных сітуацыях і аднаполых параў з'яўляецца цяжкім злоўжываннем найсвяцейшага Імя Божага, бо яно заклікаецца на афіцыйны грахоўны саюз чужаложства або гомасэксуальнага акту”, – заявілі біскупы.

Хутка забаранілі ўдзяляць такога кшталту благаслаўленне і ў іншых краінах (Беніне, Венгрыі, Замбіі, Камеруне, Конга, Малаві, Намібіі, Тога). Польская біскупская канферэнцыя прапанавала благаслаўляць толькі “асобных людзей, якія жывуць у поўным устрымманні”. А чэшскія біскупы падкрэслілі, што благаславення не атрымаюць асобы, якія не разумеюць, што яно выключае хаця б найменшы намёк на ўхваленне аднаполых стасункаў. Святаслаў Шаўчук, начальны Украінскай грэка-каталіцкай царквы, у сваю чаргу заявіў, што дэкларацыя датычная выключна Рымскага Касцёла і не мае юрыдычнай моцы ва ўсходніх каталіцкіх цэрквах.

11 студзеня 2024 года Сімпозіум біскупскіх канферэнцый Афрыкі і Мадагаскара заявіў, што на кантыненце благаслаўленне аднаполым парам надавацца не будзе. Як сказаў кенійскі мітрапаліт Фрыдалін Амбонга, у Афрыцы дакумент выклікаў шок і моцную рэакцыю, пасеяўшы замяшанне і трывогу сярод многіх свецкіх і клерыкаў.

Нямецкі кардынал Герхард Людвіг Мюлер, які ўзначальваў Кангрэгацыю веравучэння ў 2012–2017 гадах, назваў дэкларацыю “святатацкай і блюзнерскай”. Паводле яго, Касцёл “не можа адзначаць адно і вучыць іншаму”. Кардынал Роберт Сара, былы прэфект Кангрэгацыі богаслужэння і дысцыпліны сакрамантаў, назваў дэкларацыю “ерассю, якая сур'ёзна падрывае Касцёл”.

Выклікала “Fiducia supplicans” неразуменне і сярод іншых хрысціянаў. Гэтак кардынал Курт Кох, прэфект Дыкастэрыі спрыяння хрысціянскаму адзінству, адзначыў, што сутыкаецца “з негатыўнай рэакцыяй экуменічнага свету” на дэкларацыю. Напрыклад, Старажытныя ўсходнія цэрквы хочуць закрануць гэтае пытанне падчас найбліжэйшых сустрэчаў. З крытыкай дэкларацыі выступілі і іншыя хрысціянскія лідары, як амерыканскі евангеліст Фрэнклін Грэм. А брытанскі багаслоў Карл Труман выказаў занепакоенасць тым, што кансерватыўным пратэстантам на Захадзе цяпер будзе больш складана схавацца пад культурным парасонам Касцёла.

### Ватыкан працягвае тлумачыць дакумент

Пакуль свет асуджаў або ўхваляў дэкларацыю, прэфект Дыкастэрыі веравучэння кардынал Фэрнандэс працягваў спрабаваць патлумачыць яе змест. У інтэрв'ю іспанскай ABC 26 снежня 2023 года ён заявіў, што “калі прачытаць тэкст з правільным настроем, то можна ўбачыць: ён з высокім узроўнем яснасці і прастатой падтрымлівае спрадвечнае каталіцкае вучэнне аб сужэнстве і чалавечай сексуальнасці”. Паводле яго, душпастырскае благаслаўленне гомасексуальных людзей не азначае “ні згоды на шлюб, ні ўхвалення ладу жыцця, які яны вядуць, ні адпушчэння грахоў”, “гэта просты жэст душпастырскай блізкасці, да якога не прад'яўляюцца такія патрабаванні, як да сакраманту”. Тым больш, дадаў ён, гэта не з'яўляецца крокам да прыняцця гомасексуальных стасункаў або прыраўноўвання сужэнства да аднаполых саюзаў. Тым не менш, ён дазволіў кожнаму біскупу прыняць рашэнне адносна благаслаўлення аднаполых параў у сваёй дыяцэзіі.



Гэтая пазіцыя была паўтораная 4 студзеня 2024 года ў адмысловым паведамленні Дыкастэрыі веравучэння. Там падкрэслілі, што “няма ніякіх падстаў для дактрынальнага дыстанцыявання ад гэтай дэкларацыі або для таго, каб лічыць яе ерэтычнай, супярэчнай Традыцыі Касцёла або блюзнерскай”.

“Такое “душпастырскае” благаслаўленне павінна быць “перш за ўсё вельмі кароткім”: яно здзяйсняецца на працягу некалькіх секунд, без абраду і выкарыстання літургічных кніг. Калі два чалавекі звяртаюцца з просьбай пра яго, мы проста просім Пана аб міры, здароўі і іншых дабротах для гэтых двух людзей. Адначасова мы просім, каб яны маглі жыць Евангеллем Хрыста ў поўнай вернасці і каб Святы Дух мог вызваліць гэтых двух людзей ад усяго, што не адпавядае Яго Божай волі, і ад усяго, што патрабуе ачышчэння. ... У дадзеным выпадку пастыр не ставіць ніякіх умоў і не жадае ведаць пра інтымнае жыццё гэтых людзей”, – заявілі ў Дыкастэрыі.

**Там адзначылі, што кожны біскуп у сваёй дыяцэзіі ўпаўнаважаны ўводзіць такія простыя благаслаўленні “з усімі неабходнымі парадамі адносна разважлівасці і асцярожнасці, але ні ў якім выпадку не ўпаўнаважаны прапаноўваць ці ўводзіць благаслаўленні, якія могуць нагадваць літургічны абрад”.**

Таксама ў “некаторых мясцах, магчыма, будзе неабходная катэхізацыя, каб дапамагчы ўсім зразумець, што такога кшталту благаслаўленні не з'яўляюцца ўхваленнем жыцця, якое вядуць людзі, што просяць пра іх”.

“Дакумент не абараняе ні гей-лобі, ні праявы гейгонару. Нічога такога. Замест гэтага ў яго змесце – заклапочанасць лёсам многіх вернікаў, якія пакутуюць ад адчування, што яны знаходзяцца па-за Касцёлам, ад таго, што не могуць прыняць ніякага жэсту айцоўскай блізкасці. Калі пара здзяйсняе пілігрымку і прыходзіць у свой любімы касцёл, яна атрымлівае там благаслаўленне, нават ведаючы, што гэта не адпушчэнне грахоў: гэта як ласка Бога, як глыток свежага паветра, які Касцёл дае двум пілігрымам”, – заявіў прэфект Дыкастэрыі 11 студзеня ў інтэрв'ю італьянскай “La Stampa”.

Разважаючы над дакументам, старшыня Папскай тэалагічнай акадэміі біскуп Антоніа Стальяна на старонках “Avvenire” падкрэсліў, што ніхто не можа быць выключаны, пазбаўлены Божай любові: ні “неўрэгуляваныя пары”, ні нават аднаполыя пары. Паводле яго, гаворка ідзе пра благаслаўленне не столькі “гомасексуальных параў як саюзаў”, колькі “гомасексуальных людзей у пары”. “Ці можна гэта рабіць? Так, безумоўна. Ніякія тэалагічныя аргументы не могуць з каталіцкага пункту гледжання абвергнуць гэтую магчымасць”, – заявіў ён.

На сустрэчы з 800 рымскімі святарамі 13 студзеня Папа Францішак заявіў, што гомасексуалісты могуць быць благаслаўлёныя, але не ЛГБТ-асацыяцыі. “Калі мы благаслаўляем прадпрымальніка, мы не пытаемся, ці крадзе ён”, – сказаў Пантыфік.

У тэлеінтэрв'ю 14 студзеня Пантыфік падкрэсліў адносна “Fiducia supplicans”, што “Пан благаслаўляе ўсіх, кожнага, кожную”. Паводле яго, Пана “не абураюць нашы грахі, бо Ён – Айцец, Ён суправаджае нас”. Францішак таксама выказаў надзею, што пекла можа апынуцца пустым.

26 студзеня на сустрэчы з прэфектам і супрацоўнікамі Дыкастэрыі веравучэння Францішак удакладніў, што мэта дэкларацыі заключаецца ў тым, каб “паказаць блізкасць Пана і Касцёла да ўсіх тых, хто, апынуўшыся ў розных сітуацыях, просіць дапамогі ў прасоўванні наперад па шляху веры”. Папа адзначыў, што, па-першае, гэтыя благаслаўленні не патрабуюць “маральнай дасканаласці”, па-другое, благаслаўляецца не саюз, а людзі, якія просяць пра гэта, “прымаючы пад увагу кантэкст, адчувальнасць, мясцовасць і найбольш прыдатныя спосабы зрабіць гэта”.

*Мечыслаў Гапановіч*

# Экзамен на давер. Гісторыя сям'і Бацкалевіч

**Нядзеля. Як заўсёды, спяшаюся ў касцёл. Прыйшоўшы, сядаю на апошняй лаўцы, якая знаходзіцца ў бакавой наве. Адчуваю стомленасць. Праз некаторы час мой позірк спыняецца на абразе Езуса Міласэрнага. Абраз размяшчаецца акурат насупраць мяне. Я ўзіраюся ў светлы твар Хрыста, стараюся разгледзець дэталі, але ў гэтым мне перашкаджаюць рыштаванні. Яны закрываюць Божую постаць, не даюць успрыняць выяву цалкам.**

Я імкнуся зрабіць некалькі крокаў убок, каб убачыць твар свайго Бога. А потым задумваюся, наколькі гэтая сітуацыя суадносіцца з нашым жыццём. Ёсць Бог і ёсць чалавек, а паміж імі – рыштаванні. Пад арматурай разумеюцца нашы заганы, грэшныя захапленні і залежнасці – усе тыя перашкоды, якія аддзяляюць нас ад Стваральніка. Мне нічога не каштавала ступіць некалькі крокаў, падысці бліжэй да абраза, але я гэтага не зрабіла. Чаму? Бо не хацела прыцягваць увагі тых, хто маліўся ў касцёле ў гэты дзень.

Мы баімся крокаў да Бога: для гэтага патрэбныя смеласць, рашучасць, адвага, а таксама кардынальная змена ўласнага жыцця. І толькі адзінкі могуць, не баючыся асуджэння і насмешак, ісці да Стваральніка і штодня адважна сцвярджаць: "Езу, давяраю Табе!"

З Аленай Бацкалевіч я пазнаёмілася некалькі гадоў таму. Гэтая ўсмешлівая і жыццярадасная жанчына адразу мне спадабалася. Яна з тых людзей, якія глядзяць на жыццё з аптымізмам, умеюць радавацца дробязям і перажываюць нястачы і падзенні ў абдымках Бога. Пры знаёмстве я зазначыла для сябе, што нарэшце сустрэла па-сапраўднаму шчаслівага чалавека. Аднак жыццё жанчыны нельга назваць простым і гладкім. Было ў ім шмат негатыўных момантаў, якія шараговага чалавека, магчыма, выбілі б з раўнавагі. Алена ж не страціла аптымізму і жыццёвай энергіі, а пра перыпетыі лёсу можа сказаць толькі яе позірк – мудры і светлы.

Маладая сям'я Бацкалевіч узнікла тры дзесяцігоддзі таму. Алена, як і ўсе маладыя жанчыны, чакала шмат ад шлюбу. Яна марыла пра вялікую і дружную сям'ю, у якой будзе месца для радасці, шчырасці, любові і веры. У хуткім часе жанчына зацяжарыла. Гэты стан даў Алене крылы. Яна з нецярпеннем чакала сустрэчы з дзіцяткам. Цяжарнасць праходзіла без адхіленняў – на адным дыханні. Будучая маці ўяўляла дзень сустрэчы з першынцам, марыла, як прытуліць да сэрца немаўлятка. Аднак доўгачаканы дзень пайшоў зусім не па плане...

Шаснаццаць гадзін працягваўся бязводны перыяд, цалкам адсутнічалі схваткі, а дзіця акушэрам давялося натуральным чынам выціскаць. Хлопчык нарадзіўся з глыбокай гіпаксіяй, у яго амаль адразу на некалькі хвілін спынілася сэрца. Усё гэта негатыўна адбілася на стане здароўя нованароджанага.

> **"Маё дзіця – інвалід..." – сэнс гэтых слоў Алена ніяк не магла прыняць і ўсвядоміць.**

– Чаму так здарылася? За што гэта выпрабаванне дадзена майму хлопчыку? У мяне было шмат пытанняў і да ўрачоў, і да Бога. Цяжарнасць працякала ідэальна, таму на такі зыход ніхто не разлічваў, – успамінае Алена Чаславаўна.

Першыя дні для маладой сям'і былі надзвычай складанымі. Жанчына цалкам заглыбілася ў свае перажыванні, шмат плакала і думала пра будучыню Максіма – менавіта так Алена і Валерый назвалі свайго першынца. Аднак пасля маладыя бацькі прынялі сітуацыю і зразумелі, што іх асаблівы сын не з'яўляецца карай, а толькі дарам Усемагутнага Бога. Тады Алена і Валерый вырашылі зрабіць для Максіма ўсё, што толькі магчыма. Маладая мама вазіла хлопчыка на рэабілітацыі, імкнулася палепшыць яго здароўе. Яна сказала Богу простыя словы: "Езу, давяраю Табе!" І штодня аддавала ў рукі Хрыста ўсе цяжкасці, роспач, падзенні і апатыю.

У той час сям'я жыла ў невялікай вёсцы Мінойты непадалёк ад Ліды. У хуткім часе пасля нараджэння Максіма сямейная пара вырашыла пераехаць у Ліду, каб было больш магчымасцей для рэабілітацыі сына. Так і зрабілі. Рэабілітацыя і шматлікія практыкаванні далі свае вынікі – у пяць гадоў Максім мог сядзець і самастойна трымаць галаву. Гэта быў велізарны крок.

– Мне вельмі хацелася, каб сын мог размаўляць. Хаця б прамаўляць самыя простыя словы. Я бачыла, што ён усім цікавіцца, толькі гаварыць не можа. З першых месяцаў жыцця чытала Максіму кнігі. Аднойчы я купіла дзіцячых кубікі з літарамі. У хуткім часе мы засвоілі алфавіт. Пасля Максім навучыўся складаць з літар словы. Ён указваў на літары, а мы сачылі і чыталі словы і цэлыя сказы. Так мы маглі мець зносіны з сынам. Для нас гэта падзея была сапраўднай радасцю.

> **Многія меркавалі, што хлопчык з інваліднасцю не зможа засвоіць школьную праграму, але і тут памыліліся: школу хлопец скончыў з залатым медалём.**

Калі Максіму было дзесяць гадоў, Алена даведалася, што чакае дзіця. Розныя думкі і страхі ўзнікалі ў той час у яе сэрцы. Аднак жанчына вырашыла аддаць гэтую сітуацыю ў Божыя рукі. Яна ў чарговы раз шчыра прамовіла: "Езу, давяраю Табе!" Так на свет з'явіўся Мацвей. Другі сын нарадзіўся цалкам здаровым. Хлопчык зрабіў жыццё сям'і каляровым і радасным, надаў жыццёвых сіл. У 41 год Алена нарадзіла трэцяга сына – Рамана. Бацькі добра разумелі, што дзеці – гэта галоўнае багацце, якім адарыў іх Бог.

Пасля заканчэння школы Максім аказаўся ў вакууме: працягваць навучанне ён не мог. Чатыры сцяны акружалі юнака. Тады ён пачаў спрабаваць пісаць. Хлопцу з ДЦП складана даваўся камп'ютарны набор. За гадзіну ўдавалася набраць усяго толькі некалькі літар. Рукі не хацелі слухацца, замест адной літары ён націскаў адразу некалькі. Праз гэта юнак вельмі перажываў. Бацькі бачылі намаганні Максіма, спачувалі яго няўдачам. Праз некаторы час было знойдзенае рашэнне: бацькі давалі ў рукі сыну аловак. Націскаць літары алоўкам аказалася значна лягчэй, таму праца пайшла больш хутка. З цягам часу ў таленавітага хлопца нарадзілася першая кніга, пасля – яшчэ адна, а крыху пазней – яшчэ. Максім пісаў пра сваё дзяцінства, разважаў над тэмамі, якія яго хвалявалі. Хлопца заўважылі. Ён пачаў весці ўласныя калонкі ў перыядычных выданнях, даказваючы людзям, што талент немагчыма абмежаваць. Зусім нядаўна юнака прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, ён пабываў на Дні беларускай пісьменнасці, дзе прэзентаваў свае кнігі. Чытаючы тэксты Максіма, бацькі захапляюцца яго мудрасцю і сілай. Яны разумеюць, што сын у іх сапраўды асаблівы. Таленавіты, шчыры, глыбокі. Тое, што ён мае магчымасць выражаць свае думкі праз друкаванае слова, стала сапраўдным прарывам для хлопца. Тут адчуваецца Божы дотык, поўны любові да свайго стварэння.

Алена, нягледзячы на татальную занятасць, заўсёды знаходзіла час і сілы на малітву. Шмат гадоў яна з'яўляецца чальцом Жывога Ружанца, а таксама супольнасці жанчын "Маці ў малітве". Яна не прапускае ніводнай магчымасці наведаць касцёл, памаліцца і падзякаваць Богу за сваіх сыноў. Жанчына не лічыць сябе моцнай і гераічнай. У яе таксама час ад часу здараюцца хвіліны роспачы і бездапаможнасці, аднак з Божай дапамогай усё пераадольваецца. Не адчувае сябе Алена і пакрыўджанай Богам. Яна па-сапраўднаму шчаслівая. Сям'я і вера – гэта крыніца сілы. Разам з мужам Валерыем Алена радуецца поспехам сваіх сыноў. Максім распачаў працу над сваёй сёмай кнігай. Зусім хутка яна пабачыць свет і стане даступнай для чытачоў. Мацвей і Раман сталі зусім дарослымі. Аднак па-ранейшаму з асаблівай цеплынёй яны ставяцца да старэйшага брата, імкнуцца атуліць яго ўвагай і клопатам.

Алена зазначае, што выпрабаванні не сталі перашкодай на шляху да Бога, наадварот, яны далі магчымасць мацней палюбіць Нябеснага Айца, не палохацца цяжкасцей, а ў складаных сітуацыях не баяцца сказаць Хрысту сваё шчырае "давяраю".

***Марта Венславовіч***
*Фота з архіва сям'і Бацкалевіч*







# Священник, похищенный джихадистами, превратил плен в духовные упражнения

**Отец Ханс-Йоахим Лоре, миссионер в Африке, был захвачен в заложники вооружённой группой в Бамако. После освобождения в ноябре 2023 года он поделился свидетельством о том опыте свободы и единения с Богом, который он пережил в плену.**

22 ноября 2022 года миссионер из Германии о. Ханс-Йоахим Лоре был похищен джихадистами, когда готовился служить Святую Мессу в Бамако (Мали, Западная Африка). Его прихожане нашли на месте похищения только священнический крест. 370 дней он оставался узником в Сахеле, сопровождаемый, как он говорит, "Господом и вашими молитвами".

На первой встрече, организованной в Риме после его освобождения, священник рассказал об этом периоде, который описал как "творческий отпуск", посвящённый созерцанию и молитве.

"Машина подъехала на полной скорости. Я подумал, что на Мессу ещё рановато. Из машины вышел мужчина и заявил: "Отец, мы вас забираем". Когда священника увезли в неизвестном направлении, было 7:30 утра Торжества Христа Царя. В наручниках, с глухим капюшоном на голове его погрузили в заднюю дверь пикапа. Похититель сказал: "Не надо бояться: мы ничего вам не сделаем. Мы хорошие парни. Мы из Аль-Каиды".

После долгих часов в дороге они отобрали всё, что у него было: литургические облачения и книги, Библию и розарий. Забрали всё, кроме футболки с надписью "Я люблю моего Царя", которая осталась напоминанием о Торжестве Иисуса Христа – Царя Вселенной. "Они всё сожгли (...)", – и в этот момент я понял: "Отобрать мою веру они не могут".

**Необычный "творческий отпуск"**

В молодости о. Ханс-Йоахим собирался стать пастырским сотрудником и обзавестись семьёй в родной Германии. Однако почувствовал непреодолимый призыв присоединиться к Белым Отцам (так их называли по цвету облачения), когда встретился с ними в своей епархии (Миссионерское Общество апостольской жизни, основанное в 1868 году первым епископом Алжира Шарлем Лавижери для миссионерского служения в Африке. – Прим. ред.). Впервые он попал в Мали 40 лет назад и к тому времени прослужил здесь уже 28 лет. Он непрестанно трудился, особенно в области межрелигиозного диалога. В конце концов он почувствовал себя настолько истощённым, что незадолго до своего похищения попросил у начальства годичный творческий отпуск.

"Когда меня похитили, я сказал себе: "Вот и начался твой творческий отпуск: никаких встреч, никакой работы, никаких конференций, которые нужно организовать, никакой спешки... и сколько угодно времени для молитвы", – рассказывает он с юмором. Он знал, что священников обычно держат в заложниках четыре года, поэтому не ожидал, что его освободят всего через год. Он счёл это "настоящим чудом".

Отец Ханс-Йоахим вспомнил, что читал об австрийском психиатре Викторе Франкле, написавшем о своём опыте пребывания в Освенциме книгу "Человек в поисках смысла". В ней Франкл рассказывает, что выжившие впадали либо в ненависть, либо в отрицание, за исключением тех, кто "сумел обрести смысл в этой бессмыслице".

**Храня веру**

Священник решил "вверить Богу день своего освобождения". Он отталкивался от слов из книги Бытия, сказанных Иосифом, когда тот спасал своих братьев, которые когда-то его предали: "Вот, вы умышляли против меня зло, а Бог обратил это в добро". У отца Ханса-Йоахима больше не было Библии, но, на его счастье, он знал наизусть довольно много отрывков, которые сопровождали его в этих испытаниях.

Когда его привезли в полевой лагерь в Сахеле, миссионер узнал, что его похитили из-за того, что немецкие солдаты помогали армии Мали в Гаро. Через несколько дней его перевезли в другой лагерь, к "очень верующим" джихадистам. Те пытались его обратить, объясняя, что хотят построить общество по законам Шариата, "без разврата и алкоголя". "Я не был с ними согласен, но восхищался их искренностью", – признаётся священник. Он отвечал на их вопросы и защищал свою веру. Его не оскорбляли и над ним не издевались.

**Трансляция Рождественской Мессы в плену**

Ему давали достаточно еды, в том числе хлеба, кусок которого он сохранял, чтобы отслужить Мессу. Ему также дали радиоприёмник, на котором он мог слушать местные станции, а также вещание "Радио Ватикана" на английском и французском языках. Он вспоминает, как в день Рождества ему удалось услышать Папу Франциска из Ватикана: "Я был абсолютно счастлив".

Он также мог следить за главными событиями года в Католической Церкви: Всемирный день молодёжи в Лиссабоне, Синод епископов... Но самая большая радость пришла к нему, когда он поймал малийскую радиостанцию, которая сообщала, что мусульмане и христиане молятся вместе о его скорейшем освобождении. "Никогда в жизни я не чувствовал себя миссионером больше, чем в тот момент", – сказал он, глубоко тронутый.

В конце декабря его увезли в пустыню и поручили заботам туарегов. Он немного страдал от холода по ночам, хотя один из его тюремщиков дал ему кашемировый плащ. А потом началось "настоящее молитвенное бдение". Он проводил "22 часа из 24", лёжа под брезентом, и имея возможность только вытянуть ноги в том направлении, которое указывал ему охранник.

Потом его увезли в горный район. Здесь он встретился с другими заложниками. Всё это время его кормили и о нём заботились, и он мог целиком посвятить себя молитве.



**Двухчасовая Месса каждый день**

Его обычный день начинался со Святой Мессы, продолжавшейся более двух часов. Он начинал, призывая святых текущего дня, а также трёх святых, которые сопровождали его в плену: св. Бахиту, которую, как и его, похитили, и которая смогла простить тех, кто держал её в плену; св. Шарля де Фуко, апостола туарегов, и своего небесного покровителя св. Иоанна Крестителя. Затем он служил обычную Мессу, Евангелие произносил по памяти, а позже проповедовал. "Я представлял себя в одной из своих общин в Бамако".

После этого он посвящал полчаса молитвенным интенциям, молясь обо всём, что услышал по радио, а также за своих "малийских братьев". Затем он произносил Офферторий и Евхаристическую молитву. Он мог пресуществлять реальный хлеб, который сберегал специально на этот случай, и "воображаемое вино", потому что давать ему вино тюремщики отказывались. "Эта Евхаристия не может считаться действительной, но для меня это была настоящая Месса", – говорит он.

В середине дня о. Ханс-Йоахим молился Розарием, а во второй половине дня посвящал два часа созерцательному размышлению. Он добавляет, что особо молился за тех, "кто пребывал в печали" из-за его похищения, чтобы они обрели немного той безмятежности, которую он нашёл здесь, в плену.

**Благодарность за освобождение**

Наконец, ему сказали, что он будет освобождён, что и случилось 26 ноября 2023 года. Сейчас о. Лоре отдыхает, ожидая нового назначения на миссию, которая, как он сказал, будет не в Мали. Он сказал, что счастлив снова повидать свою 92-летнюю маму, которая находилась в больнице, когда его похитили. И он благодарит всех, кто его поддерживал: "Тем, кто я сейчас, я являюсь благодаря вашим молитвам".

*Камиль Далмас, Aleteia*
*Перевод:*
*Наталья Проскурина,*
*рускатолик.рф*

# Паведамленне Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі адносна Дактрынальнай дэкларацыі Дыкастэрыі Веравучэння Fiducia supplicans

**18 снежня 2023 года была апублікаваная Дактрынальная дэкларацыя Дыкастэрыі Веравучэння Fiducia supplicans, якая разважае і дае тлумачэнні пра пастырскае значэнне блаславенняў. Гэты дакумент разглядае магчымасць больш шырокага іх выкарыстання пераДусім у пазалітургічным вымярэнні. У дакуменце падкрэсліваецца, што літургічнае блаславенне можа быць удзеленае толькі ў выпадку, калі "тое, што благаслаўляецца, адпавядае Божай задуме, заключанай у стварэнні і цалкам аб'яўленай Хрыстом Панам" (FS 11).**

Нягледзячы на тое, што Дэкларацыя яшчэ раз пацвярджае адсутнасць змен у традыцыйным каталіцкім веравучэнні аб сужэнстве як саюзе мужчыны і жанчыны і няма ніякага "дазволу" або "блаславення" на аднаполыя саюзы або любое іншае жыццё ў граху, яна дае магчымасць пазалітургічнага блаславення нерэгулярных ці аднаполых пар.

Таму мы як Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі звяртаемся да святароў і ўсіх вернікаў Касцёла ў Беларусі з наступным паведамленнем.

Згаданая Дэкларацыя Дыкастэрыі Веравучэння не змяняе вечнага вучэння Каталіцкага Касцёла аб сужэнстве і сексуальнай маральнасці. Адзіным сужэнскім саюзам, які прызнае Каталіцкі Касцёл, з'яўляецца саюз паміж мужчынам і жанчынай як супольнасць усяго жыцця, скіраваная па сваёй прыродзе да дабра сужэнцаў, а таксама для нараджэння і выхавання патомства (ККП 1983, кан. 1055).

Каталіцкі Касцёл у Беларусі не мае намеру ўводзіць у практыку прапанаваную Дэкларацыяй магчымасць блаславення пар, якія жывуць у нерэгулярным саюзе, і аднаполых пар.

Канферэнцыя Біскупаў нагадвае святарам і дыяканам, што нелітургічнае блаславенне можа ўдзяляцца ўсім асобам, якія пра яго просяць. Аднак заўсёды неабходна пазбягаць удзялення блаславення менавіта парам, якія жывуць у так званым "грамадзянскім шлюбе", а таксама тым, хто жыве ў кананічна няздзейсным сужэнстве або аднаполым парам. Такое блаславенне можа быць успрынятае іншымі вернікамі як згода на грэх.

У той жа час мы з блізкасцю і павагай суправаджаем нашых братоў і сясцёр, якія жывуць у асаблівых сітуацыях, і гатовы дапамагаць ім набыць глыбейшае разуменне Божай волі на іх жыццёвым шляху да Хрыста і да святасці.

*З малітвай,*
*Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*
*Мінск, 1 лютага 2024 г.*
*catholic.by*

# Міністрант з Глыбокага атрымаў ліст ад Папы Рымскага

**У снежні Антон Згірскі, сямікласнік з в. Гірстуны (Глыбоцкі раён) і лектар у касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім, напісаў Папу Францішку ліст. Там юнак распавёў пра сваё жыццё і пра тое, што з'яўляецца міністрантам, павіншаваў Святога Айца са святам Божага Нараджэння і пажадаў святасці і добрай службы пры Алтары Пана. І вось у пачатку лютага хлопец атрымаў адказ з Ватыкана.**

"Вяртаючыся са школы, я ўбачыў у паштовай скрыні пісьмо. Забраў пошту, адразу нават і не зразумеў, але потым дома як убачыў зваротны адрас, то аж рукі затрэсліся," – кажа юнак.

Сваёй радасцю міністрант падзяліўся з сябрамі ў касцельным акружэнні, а таксама з кс. канонікам Віктарам Місевічам і паказаў падарункі – паштоўку з Божым Нараджэннем з подпісам Папы і ліст.

На пытанне "Як такая ідэя прыйшла табе, каб пісаць лісты іерархам?" Антон адказаў, што проста захацеў павіншаваць са святам. І распачалося ўсё з перапіскі з арцыбіскупам Юзафам Станеўскім. "У мінулым годзе віншаваў арцыбіскупа Юзафа з Вялікаднем і Божым Нараджэннем і атрымліваў адказы. У гэтым годзе вырашыў напісаць яшчэ біскупу Аляксандру Яшэўскаму, біскупу Алегу Буткевічу і Папу Францішку. Адказ атрымаў пакуль толькі ад Святога Айца". – "Папа Францішак найбольш пільна сочыць за карэспандэнцыяй", – усміхнуўся кс. Віктар.




Міністрант ужо і не спадзяваўся атрымаць адказ ад Папы, бо больш за месяц прайшло пасля святаў. Цяпер у планах Антона напісаць ліст і віншаванне на Вялікдзень кардыналу Клаўдыа Гуджэроці.

*Марына Сінкевіч*

# Польшча: ахвяраванні ў Папяльцовую сераду будуць прызначаны для ўкраінцаў

**"Прашу арганізаваць агульнапольскі грашовы збор ва ўсіх парафіях Польшчы пасля кожнай святой Імшы ў Папяльцовую сераду 14 лютага", – напісаў старшыня епіскапату Польшчы арцыбіскуп Станіслаў Гандэцкі ў заклiку да салідарнасці з ахвярамі вайны ва Украіне.**


Арцыбіскуп Станіслаў Гандэцкі

Сабраныя сродкі, як адзначыў іерарх, будуць перададзеныя праз Caritas Polska на "падтрымку асобаў у найбольшай патрэбе: пенсіянераў, людзей з абмежаванымі магчымасцямі, а таксама сем'яў, якія страцілі свой дом".

Вайна працягваецца, "таму, нягледзячы на пэўную стомленасць ад гэтай тэмы, салідарнасць з народам Украіны тым больш неабходная". "Як Касцёл у Польшчы мы хочам працягваць гэтую вялікую справу дапамогі, таму я звяртаюся з гарачым заклікам да няспыннай салідарнасці з украінцамі, якія маюць патрэбу ў нашай дапамозе", – адзначыў арцыбіскуп Гандэцкі.

Старшыня епіскапату звярнуў увагу, што "ад самага пачатку вайны Касцёл у Польшчы праз пасярэдніцтва Caritas Polska, дыяцэзіяльны Caritas, Бюро Дапамога Касцёлу на Усходзе, мужчынскіх і жаночых законных таварыстваў, парафій, устаноў і фірм, а таксама прыватных асобаў дапамагае ўкраінцам як у Польшчы, так і непасрэдна ва Украіне".

У Польшчы пад кіраўніцтвам Caritas дзейнічае 28 Цэнтраў дапамогі мігрантам і ўцекачам, у якіх атрымліваюць дапамогу больш за 92 тысячы ўцекачоў. 30% з іх – гэта дзеці. Звыш 70 тысяч дарослых і дзяцей атрымалі псіхалагічную падтрымку і інтэграцыйную дапамогу. Звыш 10 тысяч чалавек удзельнічалі ў курсах польскай мовы, каля 14 тысяч чалавек атрымалі дапамогу ў пошуку працы. У 2023 годзе больш за 23 тысячы чалавек знайшлі прытулак у цэнтрах Caritas і іншых касцельных установах.

***Ян Глінскі,***
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

## На сакавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**7 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;

**17 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Уладзімір Грыгор'еў** *(Іспанія)*, **кс. Ігнат Санюта** *(Ірландыя)*;

**18 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;

**28 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак**;

**31 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзіслаў Шаркові ч** *(Віцебск)*.



*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

## Гадавіна смерці святароў у сакавіку, якія працавалі на тэрыторыі Віцебскай дыяцэзіі:

**29.03.2022г. – † а. Пётр Ясевіч OFMCap**

***Вечны адпачынак дай яму, Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць. Амэн.***

# Тэст. Вялікі пост

**1 Колькі тыдняў доўжыцца Вялікі пост?**



**А.** 4
**Б.** 5
**В.** 6

**2 Гэтая нядзеля Вялікага посту называецца "Laetare" – радуйся. Паводле традыцыі, падчас св. Імшы ў гэты дзень святар можа апрануць ружовы арнат. Якая гэта нядзеля?**



**А.** 3 нядзеля Вялікага посту
**Б.** 4 нядзеля Вялікага посту
**В.** 5 нядзеля Вялікага посту

**3 Да чаго абавязвае вернікаў Вялікі пост?**



**А.** Да ўстрымання ад мяса па пятніцах і да захавання прынятых вернікам пастаноў
**Б.** Да спажывання толькі посных страў (без выкарыстання мяса, малака, яек і г.д.) на працягу ўсіх 40 дзён
**В.** Да захавання строгага посту ў кожныя сераду і пятніцу на працягу ўсяго Вялікага посту

**4 У які дзень Вялікага посту прынята пасыпаць галовы попелам?**



**А.** У сераду, з якой пачынаецца Вялікі пост
**Б.** У сераду перад Пасхальным Трыдуумам
**В.** У Вялікую пятніцу

**5 Якія словы гаворыць святар падчас пасыпання попелам?**



**А.** Памятай, што ты – прах і ў прах вернешся
**Б.** Кайцеся і верце ў Евангелле
**В.** Можа быць як варыянт А, гэтак і Б

Правільныя адказы на с. 16

**6 Адкуль традыцыйна бярэцца попел для пасыпання ў Папялец?**



**А.** Спальваюцца галінкі вербаў, асвечаныя ў мінулым годзе на Пальмовую Нядзелю
**Б.** Спальваюцца запіскі, якія падаваліся за памерлых у лістападзе
**В.** Спальваюцца кветкі, якімі ўпрыгожвалі касцёл на працягу году

**7 Чаму Вялікі пост трывае 40 дзён?**




**А.** На ўзор саракадзённага выпрабавання Езуса ў пустыні
**Б.** На ўзор саракагадовага вандравання абранага народа ў пустыні
**В.** Абодва адказы правільныя

**8 Калі ў касцёлах крыжы закрываюцца фіялетавай тканінай?**



**А.** З пятай нядзелі Вялікага посту
**Б.** З трэцяй нядзелі Вялікага посту
**В.** У Вялікую пятніцу

**9 Колькі ёсць стацый Крыжовага шляху?**



**А.** 14
**Б.** 13
**В.** 12

**10 Як падчас Вялікага посту змяняецца Літургія?**



**А.** Адсутнічае "Аллелюя"
**Б.** Не спяваецца гімн "Хвала на вышынях Богу"
**В.** Абодва адказы правільныя

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

# Сёстры ў ружовых габітах. Хто яны?



**У 1896 годдзе была заснавана Кангрэгацыя Сясцёр Служак Духа Святога ад Няспыннай Адарацыі (SSpSAP), якая вядзе кантэмпляцыйнае жыццё і здзіўляе вернікаў колерам свайго манаскага адзення. Пра жыццё сваёй супольнасці парталу Misyjne.pl распавяла сястра Марыя ад Уваскрослага SSPSAP.**

– Хтосьці можа падумаць, што сёстры ў кляштарных сценах закрытыя ад людзей і свету. У гэтай закрытасці заключаецца наша адкрытасць. Мы маем 22 супольнасці па ўсім свеце, у тым ліку ў Аргенціне, Бразіліі, Германіі, ЗША, Індыі, Інданезіі, Нідэрландах, Польшчы, Славакіі, Тога, на Філіпінах і ў Чылі.

Можна задацца пытаннем, як кантэмпляцыйная законніца можа адначасова быць і місіянеркай. На першы погляд, здаецца, што кантэмпляцыя і місіянерства – гэта два розныя заданні, якія Касцёл давярае сваім слугам, але гэта не зусім так. Усё ўзаемазвязана. Нават самыя вялікія намаганні місіянераў былі б бессэнсоўнымі, калі б не малітоўная падтрымка. Такую базу даюць кантэмляцыйныя ордэны.

### Духоўная сувязь

Мы ўдзельнічаем у евангелізацыі, але па-іншаму. Найважнейшымі нашымі задачамі з'яўляюцца кантэмпляцыйная малітва і прысвячэнне сябе. Мы разважаем над мукай укрыжаванага Хрыста, Які пакорна выконвае волю Айца. Верагодна, большасць людзей натуральным чынам абараняецца ад пакутаў, але мы стараемся прыняць іх і прынесці Богу ў ахвяру. Гэта наша місія. Гэта наш дадатковы ўдзел у пакутах нашых братоў і сясцёр у свеце. Мы адчуваем іх цяжкасці і няўпэўненасць, але таксама падзяляем іх радасці. Мы пакутуем разам з усімі, хто пакутуе, і радуемся разам з тымі, хто радуецца. Усё гэта ахвяруем Пану ў ціхай малітве. Гэтая сувязь з людзьмі і светам з'яўляецца для нас саміх таямніцай.

Мы жывём у строгай клаўзуры, гэта значыць у закрытай адасобленасці, і манаская крата з'яўляецца знакам гэтага абмежавання. Аднак гэта не аддзяляе нас ад свету. Хутчэй, гэта напамін пра тое, што мы пакліканыя выконваць такую асаблівую паслугу ў Касцёле. Прастора нашага жыцця ў свеце малая і абмежаваная. Аднак мы ведаем, што дзякуючы гэтаму можам прыняць у нашых сэрцах усе намеры і клопаты свету. Мы прадстаўляем іх Богу ад імя ўсіх людзей. Нягледзячы на тое, што прастора нашага функцыянавання такая вузкая, мы пакліканыя дапамагаць у пашырэнні веры, але справа не ў тым, што евангелізацыя нас не датычыцца. Зусім наадварот.

### Наша місія

Як мы можам выконваць місію евангелізацыі, калі не выходзім да людзей? "Паколькі любоў дасягае ўсяго, знішчае ўсё цяжкае і аблягчае праблемы, мы павінны імкнуцца да таго, каб усё вынікала з любові", – аднойчы сказаў айцец-заснавальнік святы Арнольд Янсэн у сваім закліку да сясцёр. Магчыма, гэтыя словы выразна тлумачаць нашу місійную ролю ў Касцёле і ў свеце. Наша галоўнае апостальства – гэта малітва і прысвячэнне сябе.

Ад нас не чакаецца, што мы будзем рабіць якія-небудзь асаблівыя дзеянні або нейкія эфектныя намаганні. Наадварот, наша жыццё вельмі простае. Мы выконваем звычайную працу, напрыклад, прыбіраем дома, гатуем ежу, мыем посуд, займаемся праннем бялізны, садоўніцтвам і іншымі гаспадарчымі справамі. Аднак рэч не ў выкананні ўсіх гэтых справаў, а ў тым, як мы бяромся за сваю працу: у чысціні нашых намераў і ступені любові, якую мы ўкладаем у яе.

### Сіла малітвы

Так, мы пакліканыя жыць у цішыні і ізаляцыі – гэта наша прылада для паяднання і атрымання ласкаў для ўсіх людзей з усяго свету. Я на ўласным вопыце адчула сілу малітвы і навучылася цаніць каштоўнасць маўчання перад Панам. Я перакананая, што гэта самая моцная зброя, каб абараніць сябе ад ворагаў.

У лютым 1986 года, адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў, на Філіпінах панаваў вялікі хаос. Небяспека рэвалюцыі была відавочнай. Кардынал Хаймэ Сін заклікаў усіх святароў, законнікаў і місіянераў весці вернікаў у мірнай контратацы. Гэта была наша ідэя. Неўзабаве вуліцы Манілы напоўніліся людзьмі, "узброенымі" ружанцамі і з выявамі святых. Ружанец і праспяваныя гімны ўзняліся да Неба. Гэта аб'яднала ўсіх – і малых, і старых. Малітва была супрацьдзеяннем узброеным вайскоўцам.

Прайшло некалькі дзён. Паціху аднаўляўся мір. Святары і браты-вербісты, а таксама сёстры-місіянеркі і прадстаўнікі іншых кангрэгацый заставаліся з людзьмі на вуліцы дзень і ноч, пакуль сітуацыя не была ўзятая пад кантроль і не аднавіўся мір. Дзякуючы Божаму ўмяшанню ў краіну вярнуўся мір. Ні ў кога не было сумнення, што наша малітоўная акцыя паспрыяла таму, каб усё прайшло добра.

### Стоячы на каленях

Які быў наш унёсак? Мы не сыходзілі з месца. Мы былі з людзьмі, хоць і не наўпрост – заставаліся на каленях перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Мы ўзнялі свае сэрцы да Яго і хоць адчувалі сябе бездапаможнымі, але ведалі, што толькі давер можа быць добрым рашэннем. Мы адкрылі нашыя сэрцы, каб аказаць міласэрнасць кожнаму і духам абняць нашых праціўнікаў, каб яны адчулі цеплыню Божай любові. Можа здацца спрэчным для многіх людзей, але мы таксама павінны маліцца за нашых ворагаў. Гэта непасрэдна вынікае са Святога Пісання.

Мы хочам рэалізаваць такую патрабавальную любоў на практыцы сваім стаўленнем. Гэта наша місіянерская роля – адчуваць і дзяліцца тым, што адбываецца ў свеце вакол нас. Іх пакуты – гэта і нашы пакуты. Кожны дзень мы разумеем, што Бог чакае ад нас вернасці нашаму ладу жыцця. Мы залежныя ад Бога, але адважваемся прасіць у Яго тое, што патрэбна нам, нашым суайчыннікам, Касцёлу і ўсім людзям.

Майсей у Старым Запавеце ўзышоў на гару з двума спадарожнікамі, каб быць бліжэй да Бога, пакуль яго народ змагаецца. Нічога канкрэтнага ён тады не зрабіў. Ён проста ўзняў рукі ў малітве. Гэты жэст быў прыемны Богу, але ў рэшце рэшт Майсей пачаў траціць сілу. Таму Аарон і Ор прыклалі ўсе намаганні, каб дапамагчы яму трымаць рукі і такім чынам падтрымліваць малітву, якая падабалася Богу. Пакуль Майсей уздымаў рукі ў ціхай малітве, ізраільцяне мелі перавагу. Але Майсей не мог выканаць сваю місію ў адзіночку, яму патрэбная была дапамога. Мы крыху падобныя да Майсея з гэтага ўрыўка Святога Пісання.

Нічога надзвычайнага ў кляштары мы не робім: выконваем штодзённыя абавязкі. І як Майсею, нам патрэбная падтрымка іншых, каб працягваць апостальства малітвы і прысутнасці.

Шмат для нас робяць нашыя сябры і дабрадзеі. Мы ім вельмі ўдзячныя і выказваем удзячнасць перш за ўсё праз памяць у малітве. Такім чынам мы ўдзельнічаем у місіі Касцёла. Мы молімся ў многіх кутках свету. Дзіўна, што дзякуючы гэтай духоўнай сіле мы можам удзельнічаць у намаганнях тысяч місіянераў на ўсіх кантынентах. Няхай яны заўсёды адчуваюць нашу падтрымку.

### Пра кангрэгацыю

Сёстры Служкі Духа Святога ад Няспыннай Адарацыі – трэцяя кангрэгацыя, заснаваная святым Арнольдам Янсэнам у Галандыі. Датай узнікнення кантэмпляцыйнай супольнасці лічыцца 8 снежня 1896 года, калі шэсць сясцёр атрымалі манаскае адзенне і распачалі навіцыят.

Незвычайны ружовы габіт законніц з'яўляецца сімвалам агню і радасці Духа Святога, а белы колер шкаплера і вэлюма сімвалізуе чысціню і адданасць Найсвяцейшай Панне Марыі, Беззаганнай Абранніцы Духа Святога. Таксама сёстры носяць крыж і заручальны пярсцёнак з сімвалам Трэцяй Божай Асобы.

***Аляксандра Шпілеўская,***
*Catholic.by*

# Мозаичный образ св. Шарбеля Ливанского установлен в гротах под собором Святого Петра

**Мозаичный образ святого Шарбеля Ливанского поместили с благословления Папы Римского в гротах Ватикана под собором Святого Петра близ гробницы святого Павла VI, приобщившего его к сонму святых в 1977 году, пишет *catholicnewsagency.***

Образ святого Шарбеля установили в гротах утром 19 января. В церемонии установки образа приняли участие Генеральный викарий Его Святейшества в городе-государстве Ватикан и протоиерей ватиканской базилики кардинал Мауро Гамбетти и кардинал Клаудио Гуджеротти, префект Дикастерии восточных церквей. А маронитский патриарший викарий Святого Престола епископ Рафик Варша отслужил божественную Литургию по маронитскому обряду в венгерской часовне крипты Ватикана.

Образ ливанского святого Шарбеля, почитаемого на Востоке и на Западе, благословил Папа Франциск еще 15 ноября 2023 года после общей аудиенции. Ныне его поместили рядом с могилой святого Павла VI, который и причислил его к сонму святых 9 октября 1977 года. Одновременно с церемонией помещения образа в Ливане в течение пяти минут звонили колокола маронитских церквей, после чего была отслужена Божественная Литургия у гробницы святого в монастыре Святого Марона в Ливане.

Великую радость в связи с этим событием высказал посол Ливана при Святом Престоле Фарид Элиас Хазен, много сделавший со своей стороны для этого благого дела. Он дал интервью после церемонии изданию ACI Mena, арабоязычному новостному партнеру CNA. "Это начинание было задумано несколько лет назад, однако его пришлось приостановить из-за пандемии вируса COVID-19, – сообщил посол Хазен. – Мозаика была создана в музее Святого Петра мастерами искусств, которые пекутся об убранстве, образах и украшениях собора. Кардинал Гамбетти поддержал нас в этом проекте и решил, что это будет последняя мозаика, помещенная в соборе. Для нашей общины это великое событие, которое случается раз в истории. Теперь в соборе появилось ливанское присутствие в образе нашего духовного подвижника".



Святого Шарбеля глубоко почитают не только в Ливане, но и за его пределами, в том числе в самых отдаленных странах с очень разными культурами. Особенно глубоко почитают святого в Мексике и многих странах Южной Америки. Почитание святого в Мексике во многом объясняется иммиграцией маронитов в эту страну с XIX века с одновременным ростом числа чудес, приписываемых заступничеству ливанского святого.

Марониты – ливанские христиане восточного обряда, почитающие святого Марона, жившего в V веке. Это единственная восточная христианская церковная община, всегда пребывавшая в единении с Римским Престолом.

***Сергей Игнатов,***
*Седмица.Ru*

# Незаўважаная частка Fiducia supplicans

**Нядаўняя дэкларацыя Дыкастэрыі веравучэння нарабіла шуму. Урывак пра бласлаўленне аднаполых саюзаў выклікаў цунамі меркаванняў, крытыкі ці ўхваленняў. Разам з гэтым, дакумент далей пашырае навучанне Папы Францішка адносна т.зв. "грамадзянскіх шлюбаў" ці кананічна нядзейсных сужэнстваў. Fiducia supplicans працягвае лінію Amoris Laetitia – трэба распазнаваць канкрэтныя жыццёвыя сітуацыі.**

**Цывілізацыя разводаў**

Палова сем'яў разводзіцца. Гэта лічба вагаецца ў большы ці меншы бок у залежнасці ад краіны, аднак агульны трэнд несуцяшальны: для сучаснага чалавека шлюб – гэта не пра "любіць і шанаваць цябе ва ўсе дні жыцця майго". На гэтым фоне расце і колькасць т.зв. "грамадзянскіх шлюбаў". Гэта не абстрактная праблема, а рэальнасць, у якой існуе сучасны Касцёл. У такіх "неўрэгуляваных параў" нараджаюцца дзеці, нярэдка яны пражываюць доўгае жыццё і сапраўды ствараюць цёплы хатні агмень. Таму, відавочна, Папа Францішак, спрабуе знайсці новы падыход у душпастырстве.

Пантыфік не імкнецца змяніць навучанне пра сужэнства і падкрэслівае ў Amoris Laetitia, што "больш важным за пастырства няўдач з'яўляецца пастырская дзейнасць, скіраваная на ўмацаванне сужэнства, што прадухіляе разводы" (307). Разам з гэтым ён шмат разважае пра тое, якія формы выключэнняў, што практыкуюцца на сённяшні дзень у літургічнай, душпастырскай, адукацыйнай, а таксама ў інстытуцыянальнай сферах, можна адмяніць.

**Неабходнасць распазнання жыццёвых сітуацый**

Amoris Laetitia у значнай меры была прысвечаная распазнанню. "Размова са святаром, унутранае абмеркаванне, дапамагаюць ствараць правільную ацэнку таго, што абцяжарвае магчымасць удзелу ў жыцці Касцёла, і крокаў, якія б маглі паспрыяць і развіваць" (300), – піша Францішак. Для прыкладу Папа заахвочвае "слухаць і шанаваць пакуты тых, хто перажыў несправядлівую сепарацыю, развод або пакіданне, ці быў вымушаны разарваць шлюб у выніку гвалту з боку сужэнца" (242). Amoris Laetitia поўнае такіх прыкладаў.

"Чымсьці іншым, – піша Папа Францішак, – з'яўляецца другі шлюб, які з часам умацаваўся, з новымі дзецьмі, з праверанай вернасцю, велікадушнай ахвярнасцю, хрысціянскай актыўнасцю, усведамленнем няправільнасці сваёй сітуацыі і немагчымасцю зрабіць крок назад без адчування ў сумленні, што можна набыць новую віну. Іншай рэччу з'яўляецца новы шлюб, заключаны пасля нядаўняга разводу, з усімі наступствамі разводу, з усімі наступствамі цярпення і знішчэння, якія закранаюць дзяцей і цэлыя сем'і, або сітуацыі кагосьці, хто шматразова не выконваў сваіх сямейных абавязкаў" (298) .

**"Камунія для разведзеных"**

Кс. Тадэвуш Задыковіч, аналізуючы Amoris Laetitia ў гродзенскім часопісе "Studia Theologica Grodnensia", фармулюе адзін з найважнейшых пасылаў адгартацыі: "Распазнанне можа прывесці да сцвярджэння, што гэта канкрэтная асоба, якая знаходзіцца ў так званай "нерэгулярнай сітуацыі", не жыве ў стане смяротнага граху і не пазбаўленая асвячальнай ласкі". Гэта месца ў дакуменце многімі было ўспрынятае як дарога да "камуніі для разведзеных", таму распазнанне ў гэтай справе Папа пакінуў для біскупаў. "Касцёл у аніякім выпадку не можа адрачыся ад прапановы поўнага ідэалу сужэнства", – дадаў Пантыфік.

Менавіта ў гэтым разрэзе Fiducia supplicans з'яўляецца ідэйным працягам важнасці распазнання ў душпастырстве. Дакумент Дыкастэрыі веравучэння заахвочвае да распазнання і бласлаўлення "нерэгулярных пар", якія пра гэта просяць. "Таму нават калі вашы адносіны з Богам азмрочаныя грахом, вы заўсёды можаце папрасіць бласлаўлення", – пішацца ў Fiducia supplicans. Разам з гэтым "тое, што з'яўляецца часткай практычнага распазнання ў канкрэтнай сітуацыі, не можа быць узведзенае да ўзроўню нормы", таму што гэта "прывяло б да невыноснай казуістыкі".



**Абцяжараныя распазнаннем**

Fiducia supplicans – гэта чарговы крок у бок адыходу ад шаблоннасці ў інтэрпрэтацыі складаных і часта драматычных людскіх сітуацый. Распазнанне патрабуе ад душпастыраў паглыблення ў кантэкст жыццёвых лёсаў, слухання і зразумення. Аднак, падаецца, ключавое тут усё ж такі "распазнанне патрабуе". Пры гэтым патрабуе яно і ад душпастыра, і ад чалавека. Бласлаўленне, якому прысвечана Fiducia supplicans, патрабуе размовы пра няпростыя асабістыя рэчы, а найчасцей вельмі балючыя і не такія ўжо адназначныя.

Папа прапаноўвае не факусавацца на ўтрэсеных і "чорна-белых" ацэнках, безадказным скіраванні чалавека ў касцельны суд ці балючым дыягназе "некананічнага сужэнства", а быць побач з чалавекам. "Кожнае бласлаўленне будзе магчымасцю для новага абвяшчэння керыгмы", – падсумоўвае дэкларацыя.

*Арцём Ткачук*

### Дарагія дыяцэзіяне, браты і сёстры ў Хрысце!



*Шчыра дзякую за вашыя малітвы, якімі падтрымлівалі мяне на працягу гэтых дзесяці год і якімі падтрымліваеце зараз. Дзякуй за вашыя віншаванні і добрыя словы, з якіх выпраменьвае ваша павага да святароў і ўсіх духоўных асобаў. Асабіста дзякую Богу за кожнага з вас, за гэтыя 10 год, праз якія мы крочылі разам, спрабуючы будаваць Хрыстовы Касцёл на нашай роднай Віцебшчыне.*

*Добры Бог няхай усім вам аддзячыць: святарам, братам і сёстрам манаскіх супольнасцяў і вам, дарагія вернікі. Няхай гэты юбілейны год нашай Віцебскай дыяцэзіі абудзіць нашую адданасць і шчырасць у імкненні будаваць сваё жыццё на хрысціянскіх каштоўнасцях і быць сведкамі Хрыстовай любові ў сучасным свеце.*

*Давяраючы сваю біскупскую паслугу далей вашаму малітоўнаму заступніцтву, з малітвай за вас і пастырскім благаслаўленнем,*

***+Алег Буткевіч, Біскуп Віцебскі***

### Віншуем!



*18 лютага ксёндз-пробашч парафіі святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НМП у Паставах **Вадзім Прасяной** адзначае свой сорак першы Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз-пробашч Вадзім! З нагоды Дня нараджэння мы выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за Вашу натхнёную працу на Божай ніве, за прыгажосць душы, за ўвагу да кожнага верніка нашай парафіі!*

*У гэтыя неспакойныя часы Вы вучыце нас не шукаць зручнага моманту, каб несці радасць, а несці яе заўсёды і ўсюды. Вучыце нас сведчыць пра мір і супакой, пра тую вялікую Любоў, якую мы спазнаём у абдымках Хрыста. Вучыце пераконваць гэты свет не панурым нараканнем, а рашучым дзеяннем і служэннем, сваёй аддачай працай, шчырай любоўю да бліжняга.*

*Мы цешымся, што Вы з намі дзеліцеся досведам свайго жыцця, дапамагаеце ўзрастаць у веры, заўсёды падтрымліваеце і натхняеце.*

*Шаноўны ксёндз-пробашч Вадзім! Няхай Святы Дух атуляе кожны дзень Вашага святарскага служэння, хай Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Маці Божая прытуляе Вас да свайго сэрца! Заўсёды памятаем Вас у нашых малітвах!*

***Вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НМП (Паставы)***

### Хвала Хрысту!

*Шчырыя віншаванні і пажаданні ў спалучэнні са штодзённай малітвай дасылаем нашаму **ксяндзу-пробашчу Віктару Сініцкаму SCJ** з нагоды дня нараджэння і імянінаў, якія ён адзначае 25 лютага.*

*Паважаны ксёндз Віктар!*

*Прыміце віншаванні і найлепшыя пажаданні з днём нараджэння і днём анёла.*

*Няхай Анёл-ахоўнік закрывае Вас сваімі крыламі ад хваробы, зла, непрыемнасцяў на жыццёвым шляху.*

*Усемагутны Бог дае Вам радасць і суцяшэнне ў смутку, сілы ў выкананні святарскіх абавязкаў, благаслаўляе і спасылае патрэбныя ласкі на далейшыя гады служэння на карысць Богу і людзям.*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына)***

## В Китае менее чем за неделю с согласия Ватикана рукоположен третий католический епископ

**Петр У Ишунь был хиротонисан во епископа апостольской префектуры Шаоу на юге Китая 31 января, сообщает пресс-служба Святого Престола. Речь идет о девятой по счету епископской хиротонии, совершенной после заключения так называемого Временного соглашения между Святым Престолом и Китайской Народной Республикой, и о третьей хиротонии менее чем за неделю.**



59-летний Петр У Ишунь был назначен епископом Шаоу Папой Франциском 16 декабря 2023 года в рамках соглашения, подписанного с Китаем. Он был рукоположен во священника 15 августа 1992 года, был клириком Сямэньской епархии, учился в семинарии в Шанхае.

Затем У Ишунь был отправлен в Минбэй, где служил приходским священником и руководил деятельностью апостольских префектур Шаоу и Цзяньоу. Таким образом, после своей епископской хиротонии он официально стал ординарием той же церковной области, которой ранее руководил в сане пресвитера.

Мессу, в ходе которой состоялась хиротония, возглавил ординарий Пекинской епархии епископ Ли Шань. В ней приняли участие около 80 священников из разных епархий страны, а также более 360 монахинь и мирян.

*Благовест-инфо*

## Папа Францішак унесены ў спіс кандыдатаў на сёлетнюю Нобелеўскую прэмію міру



**У спісе кандыдатаў на сёлетнюю Нобелеўскую прэмію міру з'явілася імя Папы Францішка. Вылучэнне прэтэндэнтаў завяршылася 31 студзеня, імёны ўзнагароджаных Нобелеўскі камітэт абвесціць у кастрычніку.**

Кандыдатуру Папы Францішка вылучыў нарвежскі парламентарый Даг Інге Ульштэйн ад Хрысціянскай нацыянальнай партыі.

У абгрунтаванні ён адзначыў, што, узнагароджваючы такога рэлігійнага лідара, як Папа Францішак, Нобелеўскі камітэт пацвердзіў бы важнасць рэлігійнага лідарства як рухальнай сілы міру.

Паводле Ульштэйна, з моманту свайго абрання дзесяць гадоў таму Папа выкарыстаў свой уплыў і становішча для падтрымкі шэрагу працэсаў міру і прымірэння. Сярод іншага Святы Айцец падтрымлівае мір, сустракаючыся з лідарамі Палесціны, Ізраіля і Ірака.

– Папа Францішак усім сваім жыццём і рэтрансляванымі каштоўнасцямі абвяшчае моцнае пасланне пра неабходнасць маштабнага міру і прымірэння. Гэта датычыцца не толькі адносін паміж дзяржавамі, але і паміж людзьмі і групамі насельніцтва рознага паходжання, – заўважае Ульштэйн, які вылучаў кандыдатуру Папы Францішка яшчэ ў 2022 годзе.

Нобелеўскі камітэт з пяці чалавек, створаны парламентам Нарвегіі, абвесціць імя сёлетняга лаўрэата прэміі міру ў Осла ў пачатку кастрычніка. Намінацыі на прэмію і працэс выбару лаўрэата з больш чым трохсот кандыдатур застаюцца ў сакрэце на працягу пяцідзесяці гадоў. Аднак аўтары заявак, у прыватнасці чальцы нацыянальных парламентаў, могуць апублікаваць свае прапановы.

*Па матэрыялах ekai.pl, wiara.pl*
*Пераклад*
***Марыны Ткач***

## Удзельніцы руху "Маці ў малітве" з розных мясцовасцяў Віцебскай дыяцэзіі сустрэліся ў Браславе

**28 студзеня ў санктуарыі Маці Божай Браслаўскай сабраліся прадстаўнікі руху "Маці ў малітве" з розных парафій дыяцэзіі, паведамляе waladarka.by. Нагодай сталі традыцыйныя для супольнасці малітоўныя дні.**



Жанчыны з Глыбокага, Шаркаўшчыны, Паставаў, Відзаў, Далёкіх, Пагошчы, Камаяў і Варапаева маліліся разам за сваіх дзяцей і ўнукаў. Спачатку на святой Імшы, затым – падчас малітвы супольнасці.

Сустрэча стала добрай нагодай для ўдзельніц лепш пазнаёміцца, паразважаць над уласным жыццём, падзяліцца вопытам малітвы і падтрымаць адна адну.

# Санаторый *ці* санатор? Гербарый *ці* гербар? Георгій *ці* Георг?

*Якія формы варта выкарыстоўваць у беларускай мове?*

**Тэму сённяшняга моўнага артыкула падказаў нам спадар Георгій К. з Лепельшчыны. Адразу зазначым, што сам аўтар адрасаванага нам пытання, як прызнаецца, не з'яўляецца сталым чытачом “Каталіцкага Весніка”, але час ад часу праглядае газету, якую атрымлівае па падпісцы яго жонка.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Упрыватнасці, сп-р Георгій цікавіцца моўнымі матэрыяламі, паколькі беларуская мова стала для яго цяпер асноўнай. “Я ваенны пенсіянер, – піша ён, – гадоў з дзесяць назад неяк нечакана для сябе захапіўся беларускай гісторыяй, культурай, а потым і мовай… А нядаўна адпачываў, папраўляў здароўе у санаторыі. Разам са мною ў адным пакоі жыў філолаг з Мінска (не буду называць яго прозвішча, бо гэта, можа, не зусім карэктна). З ім мы гаварылі па-беларуску, ну як атрымлівалася… Дык вось ён называў мяне *Георг*, а не Георгій. А таксама казаў *санатор*, а не санаторый, *прафілактор*, а не прафілакторый, як мы прывыклі чуць. І пераконваў мяне, што толькі так і павінна быць, што і маё імя – Георгій – гэта не беларуская форма, а ўзятая з рускай мовы. Таму ў мяне і ўзнікла пытанне: можа, маё імя і сапраўды па-беларуску павінна было б гучаць як *Георг*?”

Прызнаемся, такое пытанне стала для нас досыць нечаканым, бо наўрад ці можна казаць, што мы часта сутыкаемся ў камунікацыі з падобнымі формамі, а таксама з такімі сітуацыямі, якую апісаў аўтар ліста. Але паспрабуем асвятліць узнятую праблему.

Напрыканцы 90-ых гадоў мінулага стагоддзя сапраўды асобнымі лінгвістамі рабіліся спробы пашырыць і нават замацаваць у беларускай мове ўжыванне іншамоўных слоў, назваў без фінальнай часткі *–ій* (*-ый*). Таму тады нярэдка можна было сустрэць на старонках перыядычнага друку формы кшталту *сцэнар*, *крытэр*, *каментар*, а таксама усечаныя назвы хімічных элементаў: *гель* (замест гелій), *рад* (замест радый), *алюмін* (замест алюміній) і г.д. (Дарэчы, у “Перыядычнай сістэме хімічных элементаў” Дз. Мендзялеева налічваецца 61 назва зна *–ій*, *-ый*). Матывавалася гэта тым, што фіналь *–ій* (*-ый*) ніколі не ўжывалася ў беларускай мове, што яна ёсць толькі ў рускай мове і перанесеная ў нашую мову адтуль. Адразу скажам, што гэта не зусім прафесійны падыход да праблемы, а толькі павярхоўны погляд на сутнасць названага лінгвістычнага факта. На ўсякі выпадак заўважым, што формы з фіналлю *–ій* (*-ый*) пашыраныя і ў блізкароднаснай украінскай мове (*санаторій*, *солярій*, *гербарій*, *Андрій*, *Олексій*). У беларускай мове ўжывалася і ўжываецца вялікая колькасць тэрмінаў і спецыяльных паняццяў іншамоўнага паходжання з заканчэннем на *–ій* (*-ый*). Напрыклад, біялагічныя паняцці (*пескарый*, *сімподый*), геалагічныя (*алювій*, *дылювій*), гістарычныя (*карбанарый*, *патрыцый*), літаратуразнаўчыя (*амфібрахій*, *пірыхій*) і г.д. Мы ўжо не кажам тут пра вядомыя ўсім назоўнікі кшталту *мараторый*, *планетарый*, *кафетэрый*, *гербарый*.

Яшчэ адзін вялікі пласт лексікі з фіналлю *–ій* (*-ый*) – гэта ўласныя імёны: *Авідзій*, *Вергілій*, *Гарацый*, *Юлій* Цэзар, *Везувій*, *Меркурый* і інш. І вось цікава, як бы тады гучалі названыя ўласныя назоўнікі, калі б мы не ўжывалі канцавога *–ій* (*-ый*)? Зразумела, што гэты аспект наўрад ці варта абмяркоўваць усур'ёз. Увогуле тут мы маем справу не з аб'ектыўным разуменнем асаблівасцяў выкарыстання ў мове падобных іншамоўных назваў, а з прыватным меркаваннем асобных лінгвістаў. Хоць дзеля справядлівасці адзначым, што і цяпер формы кшталту *сцэнар* ці *каментар* часам фіксуюцца і ў вуснай камунікацыі, і ў публіцыстычных тэкстах. Але ўсё ж было б няправільным лічыць іх асноўнымі, дамінантнымі. Бо ў адваротным выпадку парушыўся б прынцып сістэмнасці, упарадкаванасці беларускай словаўтваральнай мадэлі.

Таму, адказваючы на пытанне сп-ра Георгія К., канстатуем, што правільнымі ў нашай мове сёння з'яўляюцца формы *санаторый*, *гербарый*, як і імя *Георгій*.

Спадзяёмся, што прапанаваны матэрыял дапаможа разабрацца ў магчымых спрэчных сітуацыях, звязаных з ужываннем асобных назоўнікаў грэцкага ды лацінскага паходжання ў сучаснай беларускай мове.

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам дасылалі, але па тэхнічным прычынам не былі надрукаваны ў студзеньскім нумары: **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Ігар Агулін** *(Мосар)*, **Ванда Саковіч** *(Мосар)*, **Яніна Ластоўская** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Феліцыя Пачкоўская** *(Гірстуны)*, **Марыя Рацьковіч** *(Глыбокае)*, **Уладзімір Баравік** *(Мёры)*, **Кацярына Баравік** *(Мёры)*, **Алена Лаўрыновіч** *(Мёры)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Кацяловіч В.І.** *(Хвасты)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Нэла Сініцкая** *(Глыбокае)*, **Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **Святлана Зайцава** *(Свідна)*.

У лютым свае ахвяраванні нам даслалі: **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Лілія Камінская** *(Глыбокае)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Валянціна Падгайская** *(Паставы)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Іосіф Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Браніслава Шакель** *(Браслаў)*, **Эльвіна Богуш** *(Глiншчына)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Леанід Яцук** *(Нясвіж)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Алена Дзядова** *(Навагрудак)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Ірэна Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Часлаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Тэрэса Смулько** *(Зорка)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Альдона Сіўко** *(Забалоцце)*, **Нэла Сініцкая** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Людміла Сінкевіч** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***“Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!



***Рэдакцыя***
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Аўгусцін: жыццё і дзейнасць

**Асоба вядомая і неадназначная**

Аўгусцін – гэта, напэўна, адзін з самых вядомых айцоў Касцёла. З іншага боку, вакол яго кружыць шмат легендаў. Паводле адной з іх, ён спачатку вельмі сур'ёзна зграшыў, а потым раптоўна навярнуўся і імгненна стаў святым. Да Аўгусціна некаторыя вучоныя ставяцца неадназначна, падкрэсліваючы яго "знакамітыя" памылкі, якія ён рабіў, асабліва ў сваім вучэнні пра ролю жанчыны і яе падпарадкаваным месцы ў адносінах да мужчыны, або аб перадвызначэнні чалавека Богам да вечнага збаўлення ці асуджэння. Аднак нельга адмовіць яму ў тым, што ён аказаў вялікі ўплыў на жыццё Касцёла і сапраўды быў унікальным чалавекам.

**Пачаткі жыцця і палітычнай кар'еры**

Аўгусцін нарадзіўся ў Паўночнай Афрыцы ў рымскай сям'і і атрымаў добрую адукацыю. Спачатку ён вучыўся ў сваім родным горадзе Тагасце, потым – у суседнім Мадаўры, а затым, ва ўзросце 16 ці 17 гадоў, быў адпраўлены дбайнымі бацькамі на "сур'ёзнае навучанне" ў Карфаген. Там ён вывучаў рыторыку, што тады было раўназначна пачатку палітычнай кар'еры. У старажытнасці чалавек вучыўся прамаўляць, каб быць палітыкам, уплываць на сацыяльныя структуры, апраўдваючы надзеі людзей. Пасля атрымання добрай рытарычнай адукацыі Аўгусцін пачаў працаваць у Карфагене, але потым, усё яшчэ прагнучы здабыцця далейшых ведаў і прасоўвання па кар'ернай лесвіцы, ён адправіўся ў Рым, а адтуль – у Мілан.

**У пошуках сэнсу жыцця**

Палітычная кар'ера Аўгусціна была цесна звязаная з пошукамі сэнсу жыцця і фундаментальных адказаў на пытанні, неабходныя для таго, каб дзейнічаць у гэтым свеце. Першапачаткова ён схіляўся да маніхейства. Гэта была філасофская і рэлігійная сістэма, якая яго вельмі прыцягвала. Ён нават стаў слухачом у супольнасці маніхеяў і ўсё больш і больш уцягваўся ў гэты рух, што выклікала вялікі канфлікт з яго маці Монікай, которая была набожнай хрысціянкай. Яго бацьку гэта не вельмі кранала, бо ён быў язычнікам. Таму бацьку асабліва не цікавілі вялікія філасофскія пытанні.

Аднак у Мілане адбыўся пералом у жыцці юнака. Аўгусцін упершыню пачуў якаснае хрысціянскае вучэнне ад біскупа Амброзія, які прайшоў падобны да яго шлях – ад палітычнай кар'еры да служэння Касцёлу. Менавіта тады патрабавальны малады чалавек пачаў цаніць хрысціянства.

**"Шукаю я Цябе, мой Бог..."**

Спачатку Аўгусцін пазбягаў вучэння Хрыста па прычыне таго, што кнігі Святога Пісання перакладаліся неякасна, на вельмі дрэнную лацінскую мову. Будучы адукаваным рыторыкам, ён не мог сцярпець гэтай простай, "грубай" лацiны, пазбаўленай рытарычнай прыгажосці і літаратурнага мастацтва. Таму Аўгусцін лічыў, што ў святых тэкстах хрысціян нельга знайсці нічога цікавага. І толькі казанні і катэхезы Амброзія, таксама вельмі адукаванага чалавека, адкрылі яго сэрца і розум на хрысціянскае вучэнне. Менавіта тады адбылося яго знакамітае навяртанне.

Аднойчы ноччу ў Рыме ён пачуў, як нейкае дзіця спявае: "Tolle, lege! Tolle, lege!" ("Бяры, чытай!"). Ён падумаў, што гэта нейкая невядомая яму дзіцячая гульня, але потым зразумеў, што гэта быў покліч сэрца, які падштурхоўваў яго адкрыць святыя тэксты. Аўгусцін тады ўжо меў дома Пасланні апостала Паўла. Адкрыўшы выпадковую старонку, ён трапіў на фрагмент Паслання да Рымлянаў, дзе было напісана: "...не ў гулянках ды п'янстве, не ў распусце ды разбэшчанасці, не ў сварках ды зайздрасці, але апраніцеся ў Пана Езуса Хрыста..." (Рым 13, 13-14). У гэты момант ён цалкам звярнуўся да слова Божага і Хрыста, хоць, як ён сам вызнае, адбылося гэта ў яго жыцці дастаткова позна: "Позна я цябе палюбіў, прыгажосць, такая старажытная і новая, позна я цябе палюбіў! Ты быў унутры мяне, а я звонку... Ты быў са мной, а я не быў з Табой... Але Ты мяне клікаў і Твой покліч перамог маю глухату" (Споведзь X, 27.38).

**Барацьба з самім сабой**

Нягледзячы на шчырае навяртанне, звычкі да граху ў Аўгусціна засталіся, пра што ён сведчыць у сваім бадай што самым знакамітым творы "Споведзь". У ім ён распавядае пра сваю барацьбу з грахоўнымі звычкамі. У той час Аўгусцін адчуваў моцныя дакоры сумлення і ведаў, што паводзіць сябе дрэнна. І тады, паводле яго сведчання, Бог забраў у яго пажаданне граху, але ўсё ж некаторы час заставалася моцная прывязанасць да злога. Змагаючыся з самім сабой, юнак праходзіў чарговыя этапы катэхумената, але ўрэшце прыняў хрост з рук міланскага біскупа Амброзія і, калі далучыўся да жыцця Касцёла, радыкальна змяніў сваё жыццё. Гэтыя перамены былі звязаныя як з яго ўласнымі рашэннямі, так і некаторымі знешнімі абставінамі, напрыклад, са смерцю яго сына Адэадата.

Канфлікт з маці Монікай паўплываў на тое, што ён павінен быў пакінуць жанчыну, з якой жыў без шлюбу. У тыя часы было чымсьці недарэчным і непрыгожым для мужчыны, які ўздымаўся па сацыяльнай лесвіцы, мець зносіны з жанчынай з ніжэйшых сацыяльных пластоў. Таму маці Аўгусціна моцна ціснула на яго, каб ён пасяліўся на сталым месцы і стварыў нармальную сям'ю. Сын паслухаў яе і зрабіў так, як яна прасіла. Пасля гэтага Моніка неўзабаве памерла.

**Непахісны аўтарытэт біскупа Гіпонскага**

Пасля смерці маці Аўгусцін вырашыў вярнуцца ў Паўночную Афрыку. Ён пасяліўся ў Гіпоне і там пачаў весці манаскае жыццё. Аднак, паколькі мясцовы біскуп быў сталым чалавекам, ён пераканаў Аўгусціна ўключыцца ў пастырскую працу. Нягледзячы на тое, што ён хацеў весці жыццё, прысвечанае вывучэнню ісцін веры, малітве і даследаванню Божага слова, урэшце прыняў святарскае, а затым і біскупскае пасвячэнне і стаў біскупам Гіпонскім. Яго мінулае было прычынай таго, што ён ніколі не быў пераведзены на больш важную пасаду, але яго аўтарытэт і так быў велізарны. Фактычна ўсе спрэчкі, якія ўзнікалі ў той час, – і адміністрацыйныя, і тэалагічныя, і тыя, каторыя належалі да касцельных схізмаў, – вырашаліся з яго ўдзелам. Да яго парадаў ахвотна прыслухоўваліся. Да таго ж Аўгусцін – надзвычай плённы аўтар. Яго вядомыя працы, такія як "Споведзь", "Аб горадзе Божым", "Аб Святой Тройцы", "Аб хрысціянскім вучэнні", а таксама манаскія "Правілы" і шмат якія іншыя творы і сёння прамаўляюць і вызначаюць наш шлях жыцця ў духу Хрыста.

*Кс. Павел Эйсмант*

# У базіліцы святога Пятра пачынаецца рэстаўрацыя балдахіна над галоўным алтаром

**Гігантам мастацтва назвалі бронзавы балдахін, які ўзвышаецца над галоўным алтаром базілікі святога Пятра, удзельнікі прэс-канферэнцыі, прысвечанай яго рэстаўрацыі. Яна адбылася 11 студзеня ў Ватыкане.**

Па словах архіпрэзбітара храма кардынала Маўра Гамбэці, рэстаўрацыя мае вялікае сімвалічнае значэнне, паколькі балдахін адзначае месца пахавання апостала Пятра. Сюды на працягу амаль двух тысяч гадоў сцякаецца незлічоная колькасць людзей з усіх канцоў свету.

**10 месяцаў рэстаўрацыі**

Рашэнне аб правядзенні гэтай "складанай і неабходнай" рэстаўрацыі шэдэўра Берніні было прынятае ў сувязі з надыходам Юбілею 2025 года. Плануецца, што праца распачнецца ў лютым і будзе завершана ў снежні перад адкрыццём Святой брамы.

Рэстаўрацыя прымеркаваная таксама да 400-годдзя асвячэння ватыканскай базілікі, якое адбылося 18 лістапада 1626 года пры Урбане VIII. Менавіта гэты Папа даручыў стварыць балдахін сваймy даверанаму архітэктару і скульптару Джанларэнца Берніні. З ім супрацоўнічалі таленавіты творца Франчэска Барaміні, а таксама вялікая група скульптараў, ліцейшчыкаў, цесляроў і спецыялізаваных рабочых. Праца над балдахінам доўжылася дзесяць гадоў. Ён быў задуманы ў форме покрыва з каштоўных тканін, якія выкарыстоўваліся для ўрачыстай дэманстрацыі рэліквій. Яго верх падтрымліваюць чатыры гіганцкія вітыя бронзавыя калоны. Назва "балдахін" паходзіць ад слова Baldác – так у тагачасным Рыме называлі Багдад, адкуль прывозілі тканіны.

**Мэта рэстаўрацыі**

Асноўная мэта рэстаўрацыі – захаваць шэдэўр барочнага мастацтва, стан якога пагоршыўся. Апошняя буйная рэстаўрацыя балдахіна датуецца XVIII стагоддзем, з таго часу прайшло больш за 250 гадоў, – нагадаў кардынал Гамбэці.

Рэстаўрацыйныя работы не паўплываюць на правядзенне цэлебрацый: святая Імша будзе па-ранейшаму праходзіць ля галоўнага алтара базілікі.

**Гігант мастацтва і архітэктуры**

Складанасць працы абумоўленая, па-першае, тым, што "мы маем справу з гігантам". Балдахін – гэта гігант мастацтва ўсіх часоў і народаў, але таксама і гігант па форме і памеры: яго дакладная вышыня складае 28,74 метра, агульная вага – 63 тоны.

Асобныя часткі балдахіна таксама маюць уражлівыя памеры: вышыня чатырох мармуровых пліт, на якіх устаноўленыя калоны, складае 2,6 метра. Чатыры бронзавыя калоны ў вышыню дасягаюць 11,32 метра, кожная з іх важыць больш за 9 тон. 4-метровыя скульптуры чатырох анёлаў важаць 2,5 тоны кожная. Вышыня крыжа складае 2,2 метра.



**Балдахін святога Пятра**

Акрамя таго, помнік створаны з выкарыстаннем розных матэрыялаў: паліраванай і пазалочанай бронзы, медзі, дрэва, жалеза, цэглы, бетона і іншых. Таму яго рэстаўрацыя патрабуе глыбокага навуковага даследавання і адмысловых тэхналогій.

Сродкі на правядзенне рэстаўрацыі ў памеры сямісот тысяч еўра выдзеліў ордэн Рыцараў Калумба.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*




**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Дарагі дружа, вітаю цябе ў новым нумары “Пазнавайкі”.

А ці памятаеш ты, які перыяд распачаўся ў Каталіцкім Касцёле? Правільна, Вялікі пост. Гэта асаблівы час падрыхтоўкі да галоўнага хрысціянскага свята - Уваскарсення Пана. Вялікі пост звязаны з пакаяннем, адмовай ад удзелу ў гучных забавах, цялесным постам.

Таксама ў гэты перыяд мы разважаем над Мукай Пана і ўдзельнічаем у набажэнствах Крыжовага шляху і песняў жальбы.



*А калі гэтыя набажэнствы адбываюцца ў тваёй парафіі?* ______________________________

*Якую пастанову на Вялікі пост прыняў ты?* ______________________________

## ЗАДАННЕ 1.

Разгледзь малюнкі. З рассыпаных літар складзі словы і даведаешся тры ўмовы добрага перажывання Вялікага посту.

т о п с



______________________



м а в і л т а

______________________

ц с а а н і м і л



______________________

## ЗАДАННЕ 2.

Падчас Посту Касцёл асабліва запрашае вернікаў рабіць учынкі міласэрнасці. Правільна рашы прыклады, размясці словы паводле нумароў ад 1 да 7 і даведаешся, якія ёсць учынкі міласэрнасці для душы бліжняга.

1. ______________________ *грэшнікаў*
2. ______________________ *тых, хто не ведае*
3. ______________________ *тым, хто сумняваецца*
4. ______________________ *засмучаных*
5. ______________________ *цярпліва зняважу*
6. ______________________ *ахвотна крыўду*
7. ______________________ *за жывых і памерлых*

10:2 = ... зносіць
12-8 = ... суцяшаць
14:7 = ... вучыць
2х3 = ... дараваць
17-10 = ... маліцца
10-9 = ... настаўляць
27:9 = ... раіць

## ЗАДАННЕ 3.

У першы дзень Вялікага посту ў касцёле чытаюць Евангелле ад Мацвея 6, 1–6. 16–18. Прачытай гэты ўрывак, адкажы на пытанні крыжаванкі і даведаешся, чым пасыпаюць вернікам галовы ў гэты дзень.

1. Што Езус загадаў вучням не чыніць перад людзьмі?
2. *Устаўце прапушчанае слова.* Калі даеш міласціну, не трубі перад сабою, як робяць крывадушнікі ў … і на вуліцах, каб людзі хвалілі іх.
3. Якой павінна быць міласціна?
4. *Устаўце прапушчанае слова.* Ты ж, калі молішся, увайдзі ў пакой свой і, зачыніўшы … свае, маліся да Айца твайго, Які ў таемнасці.
5. Што загадаў Езус намасціць падчас Посту?





## ЗАДАННЕ 4.

Размалюй ілюстрацыю. Паразважай, які дзень на ёй адлюстраваны.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Філіпенка***

# Распачынаецца падрыхтоўка да VI Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданне Святога Пісання

**Катэхетычны аддзел Віцебскай дыяцэзіі сардэчна запрашае да ўдзелу ў VI Дыяцэзіяльным конкурсе на веданне Святога Пісання дзяцей з каталіцкіх парафій Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Віцебскай, Гродзенскай і Пінскай дыяцэзій.**

Удзельнікі будуць падзеленыя на дзве ўзроставыя катэгорыі:

**1 катэгорыя** – дзеці ад 7 да 11 гадоў уключна;

**2 катэгорыя** – дзеці ад 12 да 17 гадоў уключна.

Тэма біблійнага конкурсу – **"Цуды Езуса Хрыста ў Евангеллях".**

Падчас падрыхтоўкі карыстаемся тэкстам першага поўнага афіцыйнага рымска-каталіцкага выдання на беларускай мове "НОВЫ ЗАПАВЕТ" (Мінск, 2017).

Пытанні конкурсу будуць гучаць на беларускай мове.

Час на выкананне задання – 45 хвілін.

Конкурс складаецца з трох этапаў: парафіяльнага, дэканальнага і дыяцэзіяльнага.

Правядзенне **першага (парафіяльнага) этапу** запланавана на **6 (7) красакавіка 2024 г.** Для ўдзелу ў конкурсе неабходна даслаць арганізатарам па электроннай пошце запоўнены фармуляр для запісу **да 17 сакавіка 2024 г. уключна.**




**Дэканальны этап** адбудзецца **20 (21) красакавіка 2024 г.** У дыяцэзіяльны (фінальны) этап праходзяць па два ўдзельнікі з кожнай катэгорыі (усяго – 4 удзельнікі) ад дэканата, якія атрымалі найбольшую колькасць балаў. У выпадку, калі ў нейкім дэканаце не набярэцца адпаведнай колькасці фіналістаў, яны будуць дабраныя з ліку ўдзельнікаў з іншых дэканатаў, якія занялі трэцяе месца ў дадзеным этапе.

**Фінал Конкурсу** запланаваны **на першую палову мая 2024 года ў Віцебску.** Прыкладная колькасць фіналістаў – да 70 чалавек.

Каардынатарам конкурсу з'яўляецца сястра Марыя Шамовіч. Пытанні і прапановы, звязаныя з Конкурсам, можна накіраваць на паштовую скрыню

*catechesisvitebsk@gmail.com*

# Фільм "Жыццё караля"

**Кінастужка "Жыццё караля" выклікае цікавасць дзякуючы некалькім фактарам. Па-першае, гэта фільм пра шахматны спорт – не самы папулярны ў кіно. Па-другое – гэта фільм пра рэальныя падзеі і рэальных людзей.**

Юджын Браун – заснавальнік шахматнага клуба "Вялікае крэсла". Калі пачытаць яго біяграфію, адкрываюцца незвычайныя рэчы. Аказваецца, шахматыст – былы злачынца, які вялікую частку жыцця правёў у турме.

За доўгія 17 гадоў мужчына не толькі навучыўся гуляць у шахматы, але і шмат разважаў над жыццём і прыняў рашэнне не вяртацца да асяроддзя злачынцаў і іх спраў. Гэты і іншыя факты біяграфіі Юджына Брауна сталі асновай сюжэту.

Настае час вяртання на волю. Што чакае галоўнага героя? Нічога радаснага: дачка, якая марыць стаць юрыстам, не жадае мець з бацькам ніякіх адносінаў; сын знаходзіцца ў калоніі за распаўсюджванне наркотыкаў. Адзіная праца, якую знаходзіць мужчына, – прыбіральшчык у школе.

Абставіны складваюцца так, што Юджыну прапануюць пабыць выхавальнікам у асаблівым класе – тым, дзе збіраюцца цяжкія падлеткі. На першы погляд, яны лянівыя, грубыя, шалёныя хлопцы і дзяўчаты. Яны растуць на вуліцы, для іх няма правілаў, няма аўтарытэтаў, няма межаў прыстойнасці.

Але калі зазірнуць глыбей у гісторыю кожнага з падлеткаў, мы бачым, што гэта проста нешчаслівыя дзеці, якія трапілі ў складаныя абставіны і выжываюць як могуць.

Юджын Браун намагаецца знайсці з выхаванцамі агульную мову. Часам гэтая мова вельмі шчырая, часам – нават балючая. Хтосьці пачынае давяраць выхавальніку, змяняе жыццё да лепшага, а хтосьці выбірае свой шлях – той, які вядзе ў цэму. У фільме добра бачна, што кожны чалавек робіць свой выбар, і ад гэтага выбару залежыць, кім ты становішся і як жывеш.



Юджын Браун прапаноўвае выхаванцам вучыцца гуляць у шахматы. Вельмі часта мова шахматных правілаў становіцца мовай, якая прамаўляе да сэрца, а правілы пераносяцца ў штодзённасць.

Дзякуючы падтрымцы моладзі, якая паверыла свайму настаўніку, атрымліваецца заснаваць шахматны клуб "Вялікае крэсла". Выхаванцы Юджына Брауна паказваюць добрыя вынікі на спаборніцтвах. Становяцца годнымі канкурэнтамі для "элітных" і "выхаваных" удзельнікаў.

Цікава, што над сюжэтнай лініяй кожнага героя можна разважаць паасобку, а таксама назіраць за падзеямі ў кантэксце сацыяльных і маральных пытанняў.

Ролю галоўнага героя выканаў знакаміты Кьюба Гудзінг-малодшы (вядомы па кінастужках "Перл-Харбар", "Інстынкт", "Куды прыводзяць мары").

Ці заканчваецца фільм "хэпі-эндам"? На гэтае пытанне кожны адкажа, калі паглядзіць кіно. Але ўжо зараз можна ўпэўнена сказаць: час на прагляд "Жыцця караля" не будзе дарэмна патрачаным.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Філіпенка***

# Каляндар на сакавік

**3** сакавіка – III Нядзеля Вялікага посту, нядзеля "Карытас".

**4** сакавіка – успамін святога Казіміра.

**7** сакавіка – успамін святых Пэрпэтуі і Фэліцыты, мучаніц.

**8** сакавіка – успамін святога Яна Божага, законніка.

**9** сакавіка – успамін святога Францішкі Рымскай, законніцы.

**18** сакавіка – успамін святога Кірыла Ерузалемскага, біскупа і доктара Касцёла.

**19** сакавіка – урачыстасць святога Юзафа, абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.

**23** сакавіка – успамін святога Турыбія Мангравэха, біскупа.

**24** сакавіка – Пальмовая Нядзеля.

**28** сакавіка – Вялікі чацвер

**29** сакавіка – Вялікая пятніца

**30** сакавіка – Вялікая субота

**31** сакавіка – Велікодная нядзеля

**Падпішыся на "Каталіцкі Веснік"**

**Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".**

**Наш падпісны індэкс – 63783**

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**

**Catholicnews.by**



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – В; 2 – Б; 3 – А; 4 – А; 5 –В; 6 – А; 7 – В; 8 –А; 9 – А; 10 – В


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1216

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 19.02.2024 г. у 7.40

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь